№ 23 (860) 18 чэрвеня 2014

www.nn.by

незалежная газета

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснавана ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Су[illegible] выходзіць штотыднёва, у серады

# — Алё, Аляксандр Рыгоравіч?

**Ад’ютанты Лукашэнкі паленаваліся праверыць нумар тэлефона і пад выглядам сына Януковіча кіраўніку Беларусі пазваніў расійскі камбінатар.** **Старонка 3.**

**Палітыка**

## Хто можа стаць кандыдатам ад апазіцыі

Да прэзідэнцкіх выбараў — паўтара года. **Старонка 4.**



**Грамадства**

## Філарэт купіў катэдж у пасёлку Чыжа

…яшчэ адзін дом БПЦ атрымала ў падарунак. **Старонка 6.**



**Здарэнні**

## «Оны самі»

Двух хлопцаў у адной вёсцы знайшлі нежывымі ў адзін дзень. Рэпартаж з Сярэдніх Печаў. **Старонка 10.**




**Адукацыя**

## Прахадныя балы ў гімназіі Мінска выраслі

Навошта ісці ў гімназіі? **Старонка 11.**



**Не забудзьце падпісацца! Апошні тыдзень падпіскі —** **старонка 2.**

# Канаплёва аштрафавалі на 135 мільёнаў, Архіпава пасадзілі на 6 гадоў

**У Мінску асудзілі** высокіх чыноўнікаў.

Гэтая справа замоўчвалася ад пачатку. Генпракуратура выдавала мінімальную інфармацыю. Справа тычылася былога калегі — намесніка генпракурора Аляксандра Архіпава. Падрабязнасці раскрываў толькі Лукашэнка. Высветлілася, за хабар — злітак золата і бутэльку каньяку — чыноўнік закрыў крымінальную справу. П'яны бяспраўнік на матацыкле трапіў у аварыю, у якой загінула яго пасажырка, але ад адказнасці кіроўцу вызвалілі. Яшчэ адным фігурантам справы аказаўся экс-спікер парламента Уладзімір Канаплёў. Ён ведаў пра злачынства і злачынцу, але не данёс.

Працэс праходзіў у закрытым рэжыме. Адкрытым зрабілі толькі вынясенне прысуду.

— Як прайшоў суд? — спыталіся журналісты ў Канаплёва перад пачаткам пасяджэння.

— Усё было бездакорна.

— Вы сябе прызналі вінаватым?

— Канечне.

— Якога чакаеце пакарання?

— Якое суд вынесе, такое і будзе.

Архіпаў адмовіўся нешта гаварыць. Ён прыйшоў з падрыхтаванай торбай: чакаў, што адразу возьмуць пад варту. І не памыліўся. Яго прыгаварылі да 6 гадоў калоніі ўзмоцненага рэжыму з канфіскацыяй маёмасці. Забралі і званне дзяржаўнага дарадцы юстыцыі 3 класа. У яго канфіскуюць аўтамабіль «Шкода» 2010 года выпуску і маёмасць з кватэры. А таксама злітак золата — усяго толькі 20 грам.

Канаплёва аштрафавалі на 900 базавых велічынь — 135 мільёнаў рублёў. Выплаціць такую суму ён мусіць цягам месяца. «А расцягнуць на некалькі месяцаў нельга?» — запытаўся ён у суддзі. Высветлілася, што ён цяпер з'яўляецца індывідуальным прадпрымальнікам. І працягвае ўзначальваць федэрацыю гандбола.

**Сяргей Макарэвіч**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Канаплёў (злева) і Архіпаў на лаве падсудных.

## Рух «За свабоду» звярнуўся да беларускага войска

Мы заклікаем армейскае кіраўніцтва скіраваць выхаванне ваеннаслужачых у бок беларускага патрыятызму. **Тэкст заявы.**

«Крывавыя падзеі ва Украіне выклікаюць ў беларусаў непакой і трывогу. Ніхто не хацеў бы, каб на нашай беларускай зямлі ішла братазабойчая вайна або нехта імкнуўся праз сваіх дыверсантаў падзяліць і акупаваць нашу Беларусь.

Беларусы — мірныя людзі, але ў крытычныя моманты трэба быць гатовым выйсці шчыльнымі радамі супраць агрэсара, каб бараніць мір, тэрытарыяльную цэласнасць і незалежнасць нашай краіны.

Агульны і маральна-палітычны стан беларускай арміі выклікае справядлівую занепакоенасць. Сёння ўсім відавочна, што тут недастаткова развіты ўласна беларускі патрыятызм, што мала чаго робіцца, каб пашыраць каштоўнасці незалежнасці і нейтральнасці Беларусі.

Мы лічым патрэбным неадкладна прыняць новую канцэпцыю нацыянальнай бяспекі, скіраваную на ўлічванне новых пагрозаў і рызыкаў для Беларусі і яе дзяржаўнасці.

Павінна быць прынятая новая праграма дзеянняў з прыярытэтам у разуменні абароны Айчыны як абароны менавіта незалежнай Беларусі. Належыць прыняць праграму сапраўднай беларусізацыі нашай арміі. Варта пашыраць выкладанне сапраўднай беларускай гісторыі ў вайсковых вучэльнях і частках, трэба выхоўваць беларускіх вайскоўцаў на ўчынках не толькі герояў Вялікай Айчыннай вайны, але і іншых гістарычных постацяў кшталту Усяслава Полацкага, вялікіх князёў Альгерда і Вітаўта, Канстанціна Астрожскага, Тадэвуша Касцюшкі, Кастуся Каліноўскага. Дзяржаўная беларуская мова павінна шырэй і рэгулярна выкарыстоўвацца камандным і афіцэрскім складам падчас урачыстых мерапрыемстваў, вучэнняў, штодзённай дзейнасці. Сапраўдные беларускае войска павінна спяваць і маршыраваць пад беларускія песні.

Мы заклікаем армейскае кіраўніцтва скіраваць выхаванне ваеннаслужачых у бок беларускага патрыятызму і гатовыя прапанаваць сваю дапамогу, напрыклад, у выглядзе адпаведных інфармацыйных матэрыялаў і адукацыйных сустрэчаў.

Мы заклікаем моладзь прызыўнога ўзросту і дзейных вайскоўцаў браць прыклад з лепшых сыноў-абаронцаў Бацькаўшчыны, каб вокліч «Служу Рэспубліцы Беларусь!» быў напоўнены глыбокім патрыятычным сэнсам».


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Спеўныя сходы ў Мінску

Новая мода: людзі збіраюцца разам летнімі вечарамі, каб спяваць беларускія песні. Наступная сустрэча — 24 чэрвеня а 20.30 каля музея Янкі Купалы. Выступіць фальклорны гурт «Гуда». Суполкі «Спеўны сход» можна знайсці таксама Укантакце і ў Фэйсбуку.

### Апытанні на nn.by

**Ці павінна Беларусь аказаць Украіне дапамогу ваеннай тэхнікай для барацьбы з тэрарыстамі?**

| | | |
|---|---|---|
| так, трэба дапамагаць Украіне | 918 | 60% |
| не, трэба падтрымліваць дзеянні Расіі | 79 | 5% |
| Беларусі трэба трымацца строгага нейтралітэту | 535 | 35% |

### Самае чытанае на nn.by за 11—17 чэрвеня

1. Дразды №2. Поўны спіс чыноўнікаў, якім раздалі зямлі на $10 мільёнаў
2. «Барысаўчанка» перадала вітанне Рыгоравічу з акопаў пад Славянскам
3. Студэнтка з Расіі разбілася насмерць, зваліўшыся з балкона падчас сэксу
4. Прахадны бал у мінскіх гімназіях у 2014 г.
5. Паланга: дзяўчына, якая загарала топлес, неўзабаве пашкадавала аб гэтым
6. Расійскія танкі ўвайшлі на тэрыторыю Данбаса ВІДЭА
7. Дугін: Або Пуцін уводзіць войскі, або гэта яго персанальнае самагубства
8. У Луганску расійскія тэрарысты збілі самалёт з 49 дэсантнікамі на борце ВІДЭА
9. Адзін з лідараў «Гавары праўду»: Раздзел Украіны выгадны Беларусі
10. Курорты Крыма: турыстаў не было і няма

**Рэкамендуем**

**Студэнт адсудзіў у «Еўраопта» 18 мільёнаў рублёў.** Чытайце на NN.BY

# «Алё, Аляксандр Рыгоравіч?»

Расійскі жартаўнік разыграў па тэлефоне **Аляксандра Лукашэнку**.

Атачэнне Аляксандра Лукашэнкі апынулася ў цэнтры скандалу. У суботу, 14 чэрвеня, расійскі тэлефонны жартаўнік (пранкер), які хаваецца пад імем Ваван, дазваніўся ад'ютанту кіраўніка Беларусі і назваўся сынам Віктара Януковіча. Надзіва, Вавану арганізавалі размову з Лукашэнкам, які і не здагадваўся, што гутарыць з жартаўніком.

Сам факт удалага тэлефоннага розыгрышу кіраўніка дзяржавы сведчыць пра вялікі промах памочнікаў кіраўніка Беларусі. Аднак калі аўдыёзапіс на наступны дзень пасля размовы з'явіўся ў інтэрнэце, разгубіўся і сам Ваван. Ён тлумачыць, што не выкладаў гутарку ў сеціва, бо збіраўся праз некалькі дзён зноў патэлефанаваць Лукашэнку.

Запіс размовы ішоў з беларускага ці трэцяга боку, бо на першых секундах апублікаванага аўдыё чуваць, што ад'ютант толькі спрабуе дазваніцца да пранкера. «Аляксандра Лукашэнку праслухоўваюць», — лічыць Ваван. Нібыта тыя перахапілі размову, не зразумеўшы, што насамрэч гэта жарт, і падзяліліся аўдыёзапісам з украінскімі журналістамі.

Адметна, што памочнікі Лукашэнкі і праз некалькі дзён не зразумелі, што сталі ахвярамі жарту. У панядзелак, 16 чэрвеня, ужо пасля з'яўлення аўдыё ў інтэрнэце, Ваван меў размову з дарадцай, чый голас падобны да голасу Наталлі Пяткевіч. «Віктар Віктаравіч, з улікам таго, што сёння адбылося, — смяецца яна. — Ён [Лукашэнка — «НН»] кажа, навошта мы будзем зноў наступаць на тыя самыя граблі, ён прапануе нейкую іншую форму зносінаў. Можа, нейкая асабістая гутарка...»

Прэс-служба кіраўніка дзяржавы адмаўляецца каментаваць сітуацыю. Інфармацыя пра пакаранне тых, хто спрычыніўся да інцыдэнту, пакуль таксама не з'яўлялася.

ЯМ



**Ваван (Vovan222) —** адзін з самых вядомых расійскіх тэлефонных жартаўнікоў. Ён датэлефаноўваўся да былога прэзідэнта СССР Міхаіла Гарбачова, прэм'ер-міністра Украіны Мікалая Азарава, расійскіх і ўкраінскіх палітыкаў Алега Ляшко, Віталя Клічко, Уладзіміра Чурава і іншых. Аўдыёзапісы жартаўлівых гутарак ён выкладае ў інтэрнэт. Прэзідэнтаў у калекцыі Вавана яшчэ не было.

**Лукашэнка размаўляе з Ваванам. Стэнаграма гутаркі.**

**— Аляксандр Рыгоравіч, добры дзень, вельмі рады вас чуць!**

— Так, Віктар, слухаю! Ты прабач, што я ўчора не пазваніў, я вельмі позна прыехаў і думаю: ну чаго ноччу званіць ужо.

**— Ды нічога, я вас выдатна разумею. У самога бацька быў нейкі час у такіх сітуацыях, калі трэба думаць у першую чаргу не пра званкі. Я пра што хацеў пагаварыць, з нагоды таго, што цяпер у бацькі сітуацыя трохі не вельмі добрая, самі разумееце. І ці можна вырашыць пытанне — гэта як запасны план — пераехаць да вас на нейкі час, калі такая сітуацыя будзе неабходная?**

— Вы, напэўна, мой публічны выступ прапусцілі ў гэтым плане. Калі мяне ў Кіеве журналісты пачалі дапытваць, ну вядома ж, не нашыя журналісты, а з таго флангу, замежныя, з нагоды Януковіча: «Ці дасцё яму палітычны прытулак і гэтак далей...» Ён, ведаеце, мяне не прасіў пра гэта, па-першае. Па-другое, ён ніякі не бежанец і бегаць нікуды не збіраецца. І па-трэцяе, кажу, не забывайце, што яго карані ў Беларусі і аж да таго, што там ёсць яго вёска, якую ён аднаўляў, дапамагаў жыхарам. Таму калі ён вырашыць вярнуцца ў сваю вёску ці назаўжды, што малаверагодна, я не асмелюся супярэчыць. Вось мой быў публічны адказ. Таму калі Віктар Фёдаравіч вырашыць на нейкі час прыехаць у Беларусь, ці іншае ў яго будзе рашэнне, я падпарадкуюся гэтаму рашэнню.

**— Ну, дзякуй...**

— Я не маю права, не маю права забараніць яму прыехаць на сваю зямлю.

**— Зразумела. Проста тут такая сітуацыя складваецца, што ідуць палітычныя гульні. І я баюся, што ён можа быць разменнай манетай, што яго могуць аддаць у Кіеў...**

— А я ўсім начальнікам у Кіеве, і Турчынаву, і Парашэнку, публічна сказаў пра гэта! Для вас ганьба, калі вы не вернеце свайго прэзідэнта ва Украіну, гэта яго радзіма, ён павінен жыць ва Украіне, ён не здзейсніў ніякіх злачынстваў. Гэта я публічна ўжо казаў! І заходнія СМІ гэта падхапілі...

**— Але я баюся проста...**

— Я нават не думаў...

**— Я баю...**

— Вы маеце рацыю, Віктар! Вы маеце рацыю, вы павінны ў гэтым жыцці прадугледжваць усё.

**— Я проста баюся, што яны там могуць расправіцца з ім без суда і следства.**

— Цалкам магчыма!..Гэта супярэчыць маім прынцыпам. Ніякай расправы над Януковічам быць не можа. Яны няхай дзякуй яму скажуць, што ён ім галовы не паадкручваў усім.

**— Дык яны яго абвінавачваюць, што ён там аддаў загад страляць, што гэта ўсё ён вінаваты, што рукі ў крыві... Вельмі непрыемна чуць.**

— Чаго не рабіў Януковіч, гэта ён не загадваў ніколі адкрываць стральбу. Калі б ён пачаў стральбу, праз дзесяць выстралаў там бы нікога не засталося. Таму гэта хлусня поўная... Агулам, Віктар Віктаравіч, давайце зробім так. Вы ВіктарФёдаравічу скажыце: першае, каб ён менш глядзеў тэлевізар і чытаў газеты. Другое: калі ён хоча прыехаць у Беларусь — калі ласка, толькі мне за суткі скажыце. Мы з ім тут сустрэнемся. У любым складзе: прыязджайце з сям'ёй, прыязджае няхай адзін —як вырашыць. Я ў любы момант знайду такі час, каб з ім сесці, перагаварыць, прынцыпова абмеркаваць пытанні і цяперашняга, і будучыні.

**— Ага, дзякуй, абавязкова яму перадам... Я вырашыў сам вам пазваніць, бо не хацеў бацьку ў гэта ўмешваць. Я з ім тады пагутару, бо ўсё ж за ім пільна назіраюць...**

— Не, ну мы сустрэнем. Мы сустрэнем яго, дзе вы скажаце, у любой кропцы, няхай загадзя хто-небудзь прыедзе з сям'і ці з яго акружэння, скажа час, каб не па тэлефоне. Мы забяспечым яму ахову на самым высокім узроўні. Ён прэзідэнт, і я не маю права... У нас па міжнародным законе паложана, таму вы не перажывайце за гэта, мы пасядзім, пагаворым.

**— Мы вам падорым залаты батон, у нас тут застаўся з калекцыі, у знак сяброўства.**

— Ха-ха-ха! Дзякуй, Віктар, дзякуй

**— Вы, напэўна, бачылі, як яны рабавалі нашу рэзідэнцыю, у нас яшчэ засталіся некаторыя рэчы...**

— Я бачыў! Я папярэдзіў, дарэчы, Турчынава, ён мяне паслухаўся. Яны хацелі яе дзяліць-крамсаць... Я яму сказаў, ты, Саша, май на ўвазе, я бачыў гэты дом, гэту тэрыторыю. Дагледжаная, такога ў Кіеве нідзе няма, дзе зайцы пешшу ходзяць. Калі вы ўсё гэта зруйнуеце, грош вам цана. Нікому не прадавайце, нічога не руйнуйце. І яго папярэджваў: не вельмі прыгожа, калі па чужым доме ходзяць людзі. Ну, ім гэта, відаць, патрэбна для рэвалюцыі, таму яны там білеты прадаюць і паказваюць людзям тэрыторыю гэту. Але берагуць!

**— Выдатна, выдатна...**

— У бліжэйшы час я сустрэнуся з Парашэнкам, мы дамовіліся. Проста ў мяне часу не было на гэтай інаўгурацыі доўга затрымлівацца, таму я паехаў пасля гэтых мерапрыемстваў рана і папрасіў у яго прабачэння. А мы павінны з ім недзе сустрэцца, і калі будуць нейкія пажаданні з боку ВіктарФёдаравіча, мы абмяркуем гэта пытанне. Вы выбірайце час і папярэджвайце мяне за суткі.

**— Ну, Парашэнка гэты даволі адэкватны, мне падаецца. Я проста не ведаю, хто на яго ўплывае, якія сілы вакол яго і ці будзе ён...**

— Я вам раскажу пасля, хто ўплывае і які расклад там. Пагавару, калі будзе ў вас такое жаданне.

**— Я тады паразмаўляю з бацькам, проста яны тут адпрацоўваюць яшчэ адзін варыянт з Наваросіяй, думаюць аб'яднаць Луганскую і Данецкую вобласці ў нейкую нібыта Наваросію і бацьку запрасіць у якасці аднаго з кіраўнікоў...**

— Гэта мы абмяркуем не па тэлефоне.

**— Усё, зразумеў. Будзем трымаць з вамі сувязь. Я абавязкова паразмаўляю з ім і калі што...**

— І перадайце яму вітанне ад мяне. І не забудзьце, каб ён менш глядзеў тэлевізар і чытаў газет.

**— Дык ён расійскае ТБ цяпер больш глядзіць.**

— Ну, я маю на ўвазе і расійскае таксама!

**— Добра, абавязкова! Усё, вялікі дзякуй вам!**

— Усяго добрага, Віктар, усяго добрага! Прывітанне Віктару Фёдаравічу! Да пабачэння, да пабачэння.

# «Звязацца з Лукашэнкам можна праз трох чалавек»

**Наколькі лёгка** паразмаўляць па тэлефоне з кіраўніком дзяржавы?

Піцерскі медыякансультант Аляксандр Зімоўскі кажа, што ў час працы старшынёй Белтэлерадыёкампаніі меў магчымасць звязвацца з Аляксандрам Лукашэнкам па спецсувязі. Праўда, сам ніколі не тэлефанаваў, а вось кіраўнік дзяржавы некалькі разоў даваў Зімоўскаму даручэнні.

«Механізм просты. Чалавек тэлефануе ў прыёмную Адміністрацыі прэзідэнта. Расказвае сваю праблему ці прапанову. У нейкіх выпадках яго могуць пераадрасаваць у Саўмін, ці гарвыканкам. Калі ж палічаць, што ягоныя імя і пасада адпавядаюць узроўню Лукашэнкі, то пра гэта дакладваюць памочніку прэзідэнта. Калі пытанні эканамічныя, то памочніку па эканоміцы і г.д. А ўжо ён на свой страх прымае рашэнне, ці інфармаваць кіраўніка дзяржавы. У любым выпадку ёсць пытанне, ці размова падасца важнай. Калі ж адмовіш у размове, прасьбіт можа дагрукацца да Лукашэнкі з іншага боку, і тады будзеш вінаваты, што не даклаў. Увогуле, звязацца з Лукашэнкам можна не больш, чым праз трох чалавек», — расказвае Зімоўскі.

Чаму супрацоўнікі Адміністрацыі не сталі правяраць нумар тэлефона, з якога званіў пранкер Ваван?

«А навошта правяраць? Чалавек тэлефануе не з пагрозамі тэракту, ён называе імя, пакідае свае кантакты... Мабыць, ні ў каго думкі не ўзнікла, што гэта можа быць розыгрыш», — перакананы медыякансультант.

Зімоўскі не спяшаецца называць гэтых людзей «Лукашэнкам» і «Пяткевіч». «Давайце назавіце іх «галасы, падобныя да галасоў Лукашэнкі і Пяткевіч».

«Я не ўпэўнены, што пасля гэтага выпадку будуць звальненні, — кажа Зімоўскі. — У Расіі ён, вядома ж, выпаўз у самыя абмяркоўваемыя тэмы інтэрнэту, але яго хутка забудуць».

Былы старшыня Белтэлерадыёкампаніі выказвае думку, што выкласці размову ў інтэрнэт мог беларускі бок. «Магчыма, гэта сведчыць пра супярэчнасці ў акружэнні Лукашэнкі наконт украінскага пытання. Магчыма, не ўсім падабаецца пазіцыя, якую публічна займае афіцыйны Мінск».

У сувязі з жартаўлівым званком на першы план выйшла пасада ад'ютанта прэзідэнта. Хто гэта такі? «Стандартная пасада, якая ёсць і ў іншых кіраўнікоў дзяржаваў. Гэта дзяжурны афіцэр службы аховы пры Лукашэнку. У яго абавязкі, напрыклад, уваходзіць адчыняць дзверы машыны прэзідэнта», —тлумачыць Зімоўскі.

Былы старшыня савета рэспублікі Аляксандр Вайтовіч кажа, што некалькі разоў тэлефанаваў Лукашэнку па ўрадавай сувязі. «Ён асабіста ніколі не здымаў. Звычайна слухаўку брала ці сакратарка, калі ён быў на працы ў Адміністрацыі на Карла Маркса, ці ад'ютант, калі на месцы яго не было. Сакратарка выслухоўвала, навошта мне трэба паразмаўляць з Лукашэнкам, пасля чаго мне трэба было ці пачакаць на лініі, ці перазваніць праз пэўны час. У прынцыпе, звычайны механізм для буйнога начальніка, у выпадку з прэзідэнтам гэтая тэхналогія мала чым адрозніваецца».

Ці карыстаецца Лукашэнка мабільнай сувяззю? І Вайтовіч, і былы рэктар БДУ Аляксандр Казулін кажуць, што не чулі пра такія выпадкі. «Мне здаецца, што не. Нідзе нават па адзенні не бачна, каб прэзідэнт насіў з сабой мабільнік. Ёсць шмат больш надзейных сродкаў сувязі за такія тэлефоны», — падсумоўвае экс-старшыня Белтэлерадыёкампаніі.

Зміцер Панкавец

# Хто можа стаць кандыдатам

Да прэзідэнцкіх выбараў застаецца не так шмат часу. Яны павінны адбыцца не пазней за лістапад 2015 года, гэта значыць, застаецца менш за паўтара года. Не выключаецца варыянт, што выбары ўвогуле пройдуць датэрмінова. Як, скажам, было ў 2006-м годзе.

Пасля рэпрэсій 2010-га (8 з 10 кандыдатаў былі арыштаваныя ці шантажаваныя ў ноч прэзідэнцкіх выбараў) мала хто гарыць жаданнем паспрабаваць сябе ў прэзідэнцкай кампаніі. Зусім мізэрнай выглядае імавернасць, што ў спаборніцтвы за найвышэйшую пасаду можа ўвязацца нехта з прадстаўнікоў наменклатуры. Хаця раней такі варыянт часта разглядалі як найбольш аптымальны. Найхутчэй, што апазіцыі давядзецца выбіраць сабе добра вядомых асоб.


Анатоль Лябедзька вытрымаў 108 дзён у Амерыканцы.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН


Генадзь Фядыніч — даўні прафсаюзны важак.

СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

### Анатоль Лябедзька

Гэтым разам Аб'яднаная грамадзянская партыя вырашыла не выдурняцца ды вылучыць кандыдатам у прэзідэнты свайго лідара Анатоля Лябедзьку.

Лябедзька — дасведчаны палітык. Ён быў сярод «маладых ваўкоў» каманды Лукашэнкі ў 1994-м, што многія не могуць яму прабачыць да сёння. Тым не менш, сваёй дзейнасцю Лябедзька даўно адкупіў грахі мінулага. Гэта чалавек, якога найчасцей затрымлівалі ды саджалі на суткі, некалькі разоў збівалі і вывозілі ў лес людзі ў масках. Значыць, менавіта ягоная дзейнасць найболыш дапякала рэжыму.

Пасля Плошчы ён 108 дзён адседзеў у турме КДБ. Многія за такі час ламаліся, Лябедзьку папракнуць няма ў чым: выпрабаванні ён вынес з гонарам, напісаўшы па выніках кнігу. «Хутчэй адгрызу сабе руку, чым здам сваіх паплечнікаў», — адказаў ён начальніку турмы КДБ, які спрабаваў яго вербаваць.

Лябедзьку 52 гады. Ён у выдатнай фізічнай форме, якую падтрымлівае штодзённымі трэніроўкамі. Мае добрае пачуццё гумару. Пакуль што ў рэзюмэ старшыні АГП няма радка аб удзеле ў выбарах, а яму б гэтага вельмі хацелася.

Слабым месцам Лябедзькі будуць мінулыя канфлікты з калегамі па апазіцыі. Напрыклад, каманда Лябедзькі прахаладна працавала ў камандзе адзінага кандыдата ў 2006 годзе. Гэта ўскладніць яму задачу аб'яднання апазіцыі.

### Уладзімір Някляеў

Адзіны кандыдат з абоймы 2010-га года, хто выказаў сваё жаданне паўтарыць спробу. У адным з інтэрв'ю Някляеў сказаў, што хацеў бы ўсё ж дайсці да Плошчы (19 снежня 2010-га яго збілі да непрытомнага стану АМАП яшчэ на падыходах да Кастрычніцкай).

67-гадовы паэт і палітык Някляеў мае большую пазнавальнасць за астатніх апазіцыйных палітыкаў. Ён працягвае ўзначальваць «Гавары праўду», але функцыі выконвае хутчэй прадстаўнічыя, а не выканаўчыя, часта знаходзячыся ў цяні свайго намесніка Андрэя Дзмітрыева.

Выглядае, што пакуль «Гавары праўду» не валодае такімі вялікімі рэсурсамі, як напярэдадні мінулых выбараў. Тым не менш, арганізацыя трымаецца на нагах.

Намаганнямі «Гавары праўду» разам з Партыяй БНФ і рухам «За Свабоду» была праведзеная кампанія «Народны рэферэндум». Праўда, ані на вуліцах, ані ў пад'ездах ніякіх агітатараў за народны рэферэндум ніхто не бачыў.

Варта адзначыць, што рэпутацыю арганізацыя заслужыла сабе неадназначную яшчэ раней. З моманту папярэдняй кампаніі, калі цёмнымі заставаліся крыніцы шчодрага фінансавання. Ну, і за апошні час некалькі былых і цяперашніх актывістаў «ГП» траплялі ў скандальныя сітуацыі.

### Вольга Карач

Жанчыны яшчэ ніколі не былі кандыдаткамі на пасаду прэзідэнта. Пра амбіцыі былой віцебскай настаўніцы гавораць ужо больш за год. Сама Карач стварае вакол сябе арэол таямнічасці. Маўляў, рана яшчэ казаць, ці буду я балатавацца.

Вользе 35 гадоў, яна нарадзілася ў сям'і рабочых. Казала, што слухае расійскі шансон. Яна перакананая, што каля 60% беларускага насельніцтва ненавідзяць «бээнэфаўцаў». Сёлета адзначылася заявай, што «хамства — гэта адметная рыса беларускамоўных людзей, у якіх нават аргументаў няма, а толькі знявагі і мат». А беларускую мову назвала недастаткова развітай, бо ў ёй няма аналагаў словам «стаяк» (каналізацыйны) і «ўнітаз».

Карач замужам за журналістам Алегам Баршчэўскім, зімой у сям'і з'явілася дзіця. Пару гадоў Вольгу ніхто не бачыў у Віцебску, але цяпер яна дакладна вярнулася ў Беларусь.

### Алесь Лагвінец

Мілінкевіч не мае намеру ўдзельнічаць у наступных выбарах. Экс-кандыдат засяродзіўся на асветніцкіх і культурніцкіх праектах. Рыгор Кастусёў мінулыя выбары не натхніў. У такой сітуацыі патрыятычныя рух «За Свабоду» і Партыя БНФ разглядаюць магчымасць вылучыць 42-гадовага палітолага Алеся Лагвінца.

Лагвінец нарадзіўся ў Хойніцкім раёне. У выніку Чарнобыльскай трагедыі вёска Дворышча аказалася ў зоне адсялення, сам Алесь з'ехаў у Дуброўну Віцебскай вобласці. Яшчэ ў вясковай школе Лагвінец добра вывучыў французскую мову, што ў будучыні дазволіла яму два гады вучыцца па паліталогіі ў Страсбургу. Стажыраваўся ён у Оксфардзе, працаваў выкладчыкам у ЕГУ.

Лагвінцу яшчэ трэба шмат чаму вучыцца ў публічнай палітыцы. Напрыклад, лепш прамаўляць ці вучыцца дамаўляцца з рознымі людзьмі. Але чаго дакладна няма ў Лагвінца, дык гэта абыякавасці. Натура ў яго гарачая, патрыятызм непадробны, імітацыяй займацца ён не будзе.

### Генадзь Фядыніч і Аляксандр Ярашук

Яшчэ з часоў Уладзіміра Ганчарыка ходзіць папулярнае меркаванне, што апазіцыі для перамогі патрэбны прафсаюзны лідар. Амбіцыйны Аляксандр Ярашук ужо спрабаваў балатавацца ў прэзідэнты (2001), але нічым добрым гэта не скончылася. Не так даўно ў інтэрв'ю радыё «Свабода» ён заявіў: «Калі б я захацеў перамагчы на выбарах, то перамог бы». Мабыць, час яшчэ не надышоў і пачуцці не саспелі. Вядома, аднак, што ў Ярашука сапсаваныя адносіны не толькі з апазіцыйнымі лідарамі, але і з многімі журналістамі.

Ярашуку 63 гады, ён родам з Камянецкага раёна Брэсцкай вобласці.

Генадзь Фядыніч, старшыня Прафсаюза радыёэлектроннай прамысловасці, менш вядомая асоба. Фядынічу 57 гадоў, родам з Жабінкаўскага раёна. Фядыніч — дабрадушны чалавек, такі рабацяга. Быў адным з арганізатараў праваленага Народнага сходу ў 2012-м.

### Аляксандр Казулін

Яшчэ зімой у каляпалітычных колах актыўна тыражаваліся чуткі, што вось-вось з новай палітычнай кампаніяй стартане Аляксандр Казулін. Вясна прайшла, пачалося лета. Але ніякай актыўнасці ад былога рэктара БДУ і палітвязня не назіраецца. Кажуць, што Казулін моцна ўразіўся падзеямі на Украіне. Маўляў, патрэбны іншы план для прыходу да ўлады, а не Плошча. Хаця не выключаецца, што 59-гадовы Казулін усё ж адважыцца ўступіць у прэзідэнцкую кампанію.

### Мікола Статкевіч

Афіцэр-ракетчык у адстаўцы Мікола Статкевіч чацвёрты год знаходзіцца за кратамі. Ужо ўсе вязні Плошчы-2010 выйшлі, а Статкевіч сядзіць. Ён тысячу разоў ужо даказаў сваю непахіснасць і мужнасць, адмаўляючыся пісаць прашэнне на імя Лукашэнкі. Існуе варыянт, што апазіцыя вылучае Статкевіча ў якасці адзінага кандыдата. Хочаце — гуляем па сумленных правілах. Не хочаце — праводзьце выбары ў кампаніі Гайдукевічаў і Ляўковічаў. Такі крок быў бы моцны.

### Павел Севярынец

Павел Севярынец з прычыны судзімасці балатавацца не можа. Ды і жадання пакуль што асабліва не мае.

У такой сітуацыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя (БХД) можа падтрымаць розныя сцэнары.

З Лябедзькам у Севярынца адносіны нармальныя. Дарма што ліберал, па сваіх сямейных і нацыянальных каштоўнасцях Лябедзька як найлепш адпавядае кансерватыўнаму і хрысціянскаму ідэалу.

Нацыянальныя пазіцыі мусілі б зблізіць БХД з Мілінкевічам і Партыяй БНФ, але іх адносіны заўжды былі, мякка кажучы, нацягнутымі. За гэтым стаіць суб'ектыўны чыннік.

Шарагоўцы БХД былі б радыя ідэалагічна чыстаму варыянту вылучэння Статкевіча ці байкоту, але партыйныя лідары разумеюць значэнне адзінага фронту і таму будуць схільныя падтрымаць супольную стратэгію апазіцыі ці супольнага кандыдата, кім бы ён ні быў.

### Байкот

Калі байкот падтрымліваюць усе палітычныя сілы, гэта таксама моцная стратэгія. Але ці рэальна гэта? Многія ў апазіцыі вераць у карысць сепаратнай гульні.

Найхутчэй, што тактыку байкоту абяруць колы, блізкія да «Хартыі-97» і КХП-БНФ — і Саннікаў, і Пазняк застаюцца ў эміграцыі.

# ад апазіцыі

Напрыклад, паўдзельнічаць у выбарах хоча генерал Валерый Фралоў, хоць ужо ў 2006 годзе ён не здолеў назбіраць подпісаў. А тады ж і ён быў маладзейшы, і сітуацыя была прасцейшая.

Павелічэнню колькасці кандыдатаў ад апазіцыі могуць паспрыяць і ўлады. Аляксандру Лукашэнку не выгадна, каб супраць яго ішоў адзіны кандыдат. Таму ягоныя людзі зробяць усё, каб спакусіць у паход на выбары і жука і жабу.

**Зміцер Панкавец**


Алесь Лагвінец — новы твар у беларускай апазіцыі.




Вядомая ўкраінская пісьменніца прыйшла ў Вярхоўную раду ў майцы «Пуцін — х*ло».

# Расія перакрыла Украіне газ

А ў Данбасе працягваюцца **цяжкія баі**.

Па стане на аўторак загінула 129 украінскіх вайскоўцаў. І гэтая лічба працягвае расці. У аўторак чацвёра ўкраінцаў загінулі ў баях пад Луганскам. Лінія «фронту» наблізілася да самага горада. Кананада цэлы дзень грымела ў пасёлку Металіст, што між вызваленым украінцамі гарадком Шчасце і самім Луганскам. Гінуць і баевікі. Разам з імі ад пападання міны палеглі і два журналісты тэлеканала «Расія». Іх апошні перад смерцю рэпартаж называўся «У пасёлку Шчасце карнікі выразалі амаль усё мясцовае насельніцтва». Поўная мана, канечне. (**Глядзіце на NN.BY** відэаінтэрв'ю з бацькам і сынам Аляксандрам і Валодзем Касалапамі са Шчасця, што пайшлі добрахвотнікамі ва ўкраінскую армію, каб вызваліць родны горад.)

На мінулым тыдні ўкраінцы ачысцілі ад тэрарыстаў Марыупаль і працягвалі метадычна абстрэльваць баевікоў у месцы найбольшай іх канцэнтрацыі: у Славянску, Сямёнаўцы і Краматорску.

Зараз украінскія сілавікі хочуць аднавіць кантроль над мяжой з Расіяй і тым самым узяць Луганск у аблогу. Інакш зброя з Расіі плыве і плыве. Тры танкі перасеклі ўкраінскую мяжу ў мінулы чацвер. Праўда, далёка не заехалі. Экіпажы кінулі іх на дарозе, дзе машыны і расстралялі з паветра.

У суботу тэрарысты збілі пад Луганскам транспартны самалёт з 49 маладымі дэсантнікамі на борце. Гэтая страшная трагедыя выклікала пратэсты ва ўсёй Украіне. Сотні людзей у Кіеве закідвалі расійскае пасольства яйкамі, перакульвалі дыпламатычныя машыны. Каб супакоіць пратэстоўцаў, да іх прыехаў украінскі міністр замежных спраў Андрэй Дзяшчыца і сам недыпламатычна назваў Пуціна «х*йлом». Такую мянушку прыдумалі ўкраінскія футбольныя фанаты, і яна пайшла ў народ. Так на слэнгу называюць чалавека, які думае не галавой, а ...

Словы міністра хтосьці зняў і кінуў у інтэрнэт, Масква закіпела ад абурэння.

І з панядзелка «Газпром» адключыў Украіне газ — чым даўно пагражаў. Краіны звярнуліся ў Стакгольмскі арбітраж, каб той рассудзіў іх спрэчку. Уся надзея Кіева цяпер — на рэверсны транзіт газу з Германіі праз Славаччыну. У немцаў газ каштуе менш, чым заламіла Расія. Але пытанне і ў юрыдычных, і ў тэхнічных магчымасцях. Гэта гонка з часам: Украіне мусова паспець да зімы.

Усё цяпер залежыць ад Еўропы, ад Ангелы Меркель. Калі яны прыйдуць на выручку з газам — Украіна выстаіць.

**Мікола Бугай**

# Нацбанк: Памер замежнага доўгу беларускіх банкаў дасягнуў небяспечнага ўзроўню

**Небяспечныя тэндэнцыі** насцярожваюць Дзмітрыя Лапко.

«Памер валавога знешняга доўгу банкаўскага сектара Беларусі адносна сукупных пасіваў банкаў і золатавалютных рэзерваў Нацыянальнага банка дасягнуў патэнцыйна небяспечнага ўзроўню», — заявіў начальнік галоўнага ўпраўлення банкаўскага нагляду Нацбанка, член праўлення Дзмітрый Лапко. Тэкст яго выступлення публікуе «Банковский вестник».

Да іншых фактараў, якія негатыўна ўплываюць на ўстойлівасць банкаўскага сектара, Лапко аднёс сітуацыю ў Расіі. «Змена агульнаэканамічнай сітуацыі ў Расійскай Федэрацыі можа абмежаваць магчымасці па рэфінансаванні знешняй запазычанасці беларускімі банкамі шляхам выкарыстання як мацярынскага капіталу, гэтак і сіндыкаваных крэдытаў», — сказаў член праўлення Нацбанка.

На яго думку, перавышэнне кароткатэрміновых знешніх абавязацельстваў над даступнымі банкам ліквіднымі актывамі ў замежнай валюце «ў выпадку рэалізацыі негатыўнага сцэнарыя можа прывесці да дэфіцыту ліквіднасці ў замежнай валюце для банкаў».

Паводле звестак Нацбанка, валютны крэдытны партфель банкаў, велічыня якога складае 15,5 млрд долараў ЗША, характарызуецца высокай ступенню канцэнтрацыі — трэцяя частка валютных крэдытаў усяго банкаўскага сектара прыпадае на 20 найбуйнейшых пазычальнікаў.

Пры гэтым у Нацбанку канстатуюць, што апошнім часам адбываецца значнае пагаршэнне ключавых фінансавых паказчыкаў крэдытаатрымальнікаў.

**БелаПАН**

# Філарэт набыў катэдж у пасёлку Чыжа, яшчэ адзін дом БПЦ атрымала ў падарунак

**У «Лагожаску» мітрапаліт пабудаваў катэдж-царкву.**

«Лагожаск» — элітны катэджны пасёлак, які будуе кампанія «Трайпл» Юрыя Чыжа. Спачатку мільянер уклаў грошы ў стварэнне гарналыжнага комплексу «Лагойск», той адкрыўся 10 гадоў таму. А пасля Чыж вырашыў пабудаваць жылыя дамы каля яго.

Спачатку планавалася забудаваць «Лагожаск» тыповымі катэджамі і прадаваць іх, аднак попыт на такія дамы быў слабы. Такія збудаванні дагэтуль прадаюцца па $420 тысяч (без унутранага аздаблення).

Бізнэс-мадэль давялося змяніць. «Трайпл» выставіў на продаж проста зямлю. Гаспадары могуць самі замовіць праект, адзінае пажаданне — захаванне аднолькавага архітэктурнага стылю. Зараз за пустыя надзелы просяць каля $120 тысяч.

У «Лагожаску» ёсць яшчэ і таўнхаўсы — двухпавярховыя катэджы-кватэры з ізаляваным уваходам і агульнымі бакавымі сценамі. За іх «Трайпл» просіць ад $200 тысяч (без унутранага аздаблення).

Пакуль што ўдалося прадаць каля паловы надзелаў, астатнія дагэтуль чакаюць пакупнікоў.

Сярод іменаў гаспадароў «Лагожаска» — гэта пераважна беларускія бізнэсмены і топменеджары — вылучаюцца імёны двух уласнікаў.

Вясной 2012 года «Трайпл» прадаў законсерваванае будаўніцтва грамадзяніну Кірылу Варфаламеевічу Вахрамееву. Гэта мірское імя мітрапаліта Філарэта. Яшчэ праз некалькі месяцаў лагойскія чыноўнікі выдзелілі святару ўчастак пад домам — у пажыццёвае валоданне з правам перадачы ў спадчыну. Што праўда, спадкаемцаў у Філарэта няма: бацькі і старэйшая сястра даўно памерлі, а мець жонку і дзяцей «чорнаму духавенству» забаронена.

Афіцыйна надзел яму далі «для абслугоўвання жылога дома». Але, здаецца, будуецца іншы аб'ект — глядзіце фота. Фактычна, гэта прыватны малітоўны дом, бо як храм гэта збудаванне не рэгістравалася. Будаўнічыя працы ў катэджы-царкве працягваюцца дагэтуль.

У канцы 2013 года Філарэт сышоў на спачын, яму ўжо 79 гадоў. Неўзабаве ў Мінск з Расіі прыехаў новы мітрапаліт, Павел (Георгій Панамароў).

## Юрый Чыж вырас у шматдзетнай баптысцкай сям'і

А ўжо ў лютым 2014 года новага гаспадара знайшоў яшчэ адзін дом у «Лагожаску», якраз на ўзгорку праз дарогу ад збудавання Філарэта. Паводле дакументаў, старшыня Мінскай абласной натарыяльнай акругі Наташа (так у афіцыйнай паперы) Папіна афармiла зямлю і катэдж на ёй як падарунак Беларускай праваслаўнай царкве. Хто зрабіў такі шчодры прэзент — 17 сотак элітнай зямлі і двухпавярховы дом плошчай больш за 300 $м^2$, якія прадаюцца за $400 тысяч? У дакументах Нацыяльнага кадастравага агенцтва такой інфармацыі няма. Найхутчэй, гэта непасрэдна «Трайпл», якому належаць і ўсе астатнія нераспраданыя ўчасткі. Каардынатар праекта «Лагожаск» Павел Пратасоўскі не стаў каментаваць сітуацыю, патлумачыўшы, што кампанія не называе імёны сваіх кліентаў.

У адрозненне ад Філарэта, новы гаспадар не стаў усталёўваць на даху праваслаўныя «цыбулінкі». Выглядае на тое, што ён збіраецца выкарыстоўваць элітны дом па прызначэнні — жыць у ім. Працы па аздабленні ў катэджы ўжо сканчаюцца.

*Ягор Марціновіч,*
**фоты Сяргея Гудзіліна**



**Юрый Чыж**

Нарадзіўся ў 1963 у вёсцы Сабалі Бярозаўскага раёна. Закончыў БНТУ. Уласнік рознагаліновай бізнэс-імперыі «Трайпл», мае інтарэсы ў нафтавым сектары, нерухомасці, гандлі, вытворчасці будматэрыялаў, грамадскім харчаванні, турызме, спорце, сельскай гаспадарцы. Трапіў пад санкцыі Еўрасаюза як «кашалёк Лукашэнкі».



**Філарэт (Кірыл Вахрамееў)**

Нарадзіўся ў 1935 у Маскве, выхадзец з купецкага яраслаўскага роду. Навучаўся ў Маскоўскай духоўнай акадэміі. Мітрапаліт Берлінскі і Сярэднееўрапейскі (1973—1978), мітрапаліт Мінскі і Слуцкі, патрыяршы экзарх Беларусі (1978—2013). Герой Беларусі.

**Праект дома, які быў падораны БПЦ.**




1. Тамбур (4 $м^2$). 2. Гардэроб (4 $м^2$). 3. Гардэроб для верхняга адзення (15 $м^2$). 4. Гараж (41 $м^2$). 5. Гасцёўня (35 $м^2$). 6. Сталовая (28 $м^2$). 7. Кабінет (23 $м^2$). 8. Топачка (8 $м^2$). 9. Прылазнік (3 $м^2$). 10. Саўна (5 $м^2$). 11. Дапаможнае памяшканне (2 $м^2$). 12. Туалет (4 $м^2$). 13. Калідор (6 $м^2$). 14. Тэраса (39 $м^2$)




1. Хол (34 $м^2$). 2. Спальня (22 $м^2$). 3. Спальня (20 $м^2$). 4. Гардэробная (12 $м^2$). 5. Ванная (12 $м^2$). 6. Тамбур (4 $м^2$). 7. Ванная (12 $м^2$). 8. Гардэробная (14 $м^2$). 9. Спальня (12 $м^2$). 10. Гульнявы пакой (15 $м^2$). 11. Спальня (12 $м^2$). 12. Балкон (3 $м^2$). 13. Лоджыя (6 $м^2$). 14. Балкон (2 $м^2$). 15. Балкон (5 $м^2$).



**Катэдж-царква Філарэта.**



**Двухпавярховы падарунак для Беларускай праваслаўнай царквы.**



**Першапачатковы праект забудовы, яго давялося змяніць.**

# «Забіў, бо не хацеў больш трапіць у турму»

**У Мінску судзяць хлопцаў за жорсткае забойства.**

Гэтая справа ўскалыхнула Беларусь летам 2013 года. Тады, 3 ліпеня, мінчанка Таццяна Слонімская паехала на сваім аўто ў ягады. І знікла. Жанчыну шукалі ўсёй краінай, але марна. Спачатку ў Маскве знайшлі яе «Мазду». А ўжо пасля, пад Мінскам, і саму жанчыну. Нежывой. Тады ж па падазрэнні ў забойстве затрымалі і дваіх хлопцаў. За імі выявіўся шлейф нераскрытых злачынстваў.

**«Проста стукнуў з размаху»**

На лаве падсудных — 21-гадовы Яўген Кулік і 20-гадовы Мікалай Лотыш. Мінчукі. Абодва раней былі асуджаныя за крадзяжы. Калі на судзе Кулік расказвае падрабязнасці справы (Лотыш адмовіўся гаварыць), становіцца зразумела, што забойства было спантанным — жанчына апынулася не ў той час не ў тым месцы.

У чэрвені 2013 хлопцы здзейснілі некалькі крадзяжоў. А нарабаванае прывезлі ў схованку ў лесе каля вёскі Прылессе. 3 ліпеня яны вырашылі падзяліць рэчы, калі туды ж прыехала Таццяна Слонімская.

«Прыехалі да схованкі на «Таўрыі», на вока падзялілі. І ў гэты час проста да нас пад'ехала тая жанчына. Пацікавілася, дзе ягады збіраюць. Пачалі паказваць ёй у іншы бок. Яна крыху ад'ехала — але ў зоне бачнасці засталася. Я Лотышу прапанаваў не працягваць, а пакуль проста з'ехаць», — тлумачыў на судзе Кулік. І гэта быў шанец для жанчыны на ўратаванне. Але яна не чакала такой развязкі.

Калі хлопцы вярнуліся зноў у лес, Таццяна ўсё яшчэ збірала ягады. «Лотышу ўсё тэлефанавалі, падганялі... Ён знайшоў кліента, які гатовы быў купіць яго частку нарабаванага. Загрузілі машыну, развярнуліся... Я сказаў, што трэба пазбавіцца ад гэтай жанчыны — яна бачыла, што ў нас схованка. Ён нешта адказваў, я не памятаю.

Я абышоў машыну. У кішэні быў саматробны нож. Сачыў здалёк за ёй. Адразу наважыцца не мог. І ў гэты момант мне патэлефанаваў Лотыш: «Ідзі сюды, мне пазваніў кліент». Адказаў, каб ён ехаў, а я пайду пасля пешкі. Жанчына падышла да багажніка. Я на яе — проста стукнуў з размаху. Павярнулася да мяне і пачала крычаць. Я нанёс яшчэ ўдары нажом [эксперты пасля налічаць не менш за 14]. Яна паваліліся.

Пачаў клікаць Лотыша. Гляджу, а ён паціху ад'язджае. «Вярніся!» — закрычаў. Ён пакінуў машыну і падышоў. «Дапамажы, — кажу. — Цела трэба пакласці ў багажнік яе машыны». Ён не пярэчыў. Я за ногі ўзяў, ён пад рукі. Там вядзерка з ягадамі было — дурніцы... Я сеў за руль «Мазды». Лотыш — у «Таўрыю», — без эмоцый Кулік апісваў, што і як рабілі.

Лотыш паехаў наперадзе. Ён павінен быў папярэдзіць па тэлефоне, калі па дарозе будзе міліцыя. Пры выездзе на магілёўскую трасу яны раз'ехаліся. Лотыш вярнуўся ў горад, а Кулік скіраваўся ў бок вёскі Забалацце, дзе была дача бацькоў. «Ведаў, што недалёка ад вёскі ёсць балота». Схадзіў на дачу па рыдлёўку. «І паехаў далей — шукаць, дзе можна пахаваць». Яму выкапаў у лесе. Калі даставаў цела, з пальцаў зняў тры залатыя пярсцёнкі. Па дарозе назад спаліў дакументы жанчыны і мабільнік.

У гэты момант ён прыдумаў цэлы план. Ёсць саюзная дзяржава і адкрытая мяжа з Расіяй. Кулік вырашыў купіць падробленыя дакументы ў Мінску і прадаць машыну ў Маскве. Глядзіш на гэтага хударлявага невысокага хлопца і дзівішся, як у яго галаве ў стрэсавай сітуацыі склалася цэлая схема. А ён жа сярэднюю школу ледзь скончыў. І ўсё з такім строгім разлікам.

Кулік перадаў Лотышу сваё адзенне ў крыві, каб той пазбавіўся ад яго. А сам паехаў па дакументы: «Я хацеў прадаць машыну. Патрэбны былі тэхпашпарт, транзітныя нумары. Зняць з уліку. Той чалавек сам друкуе, запаўняе, пячатку ставіць».

У Маскву выправіўся з кіроўцам: папрасіў аднакласніка адагнаць машыну, бо сам не меў правоў. Па дарозе ў раку выкінуў нож. У расійскай сталіцы ў ламбард здаў залатыя пярсцёнкі Слонімскай (прыкладна за $200). Аднакласніка пасадзіў на цягнік да Мінска. А сам яшчэ два дні заставаўся ў горадзе.






Тая самая «Мазда», што і «спакусіла» на забойства.

Ён прапанаваў машыну знаёмаму Дзмітрыю Чайкоўскаму. Адкуль аўто, не расказваў. А той без лішніх праверак і пытанняў купіў — за 185 тысяч расійскіх рублёў (каля $5500). Гэта значна заніжаная цана. Пракурор ацаніў кошт машыны ў $14 тысяч. Дома Кулік перадаў Лотышу $500.

**Машына — на Пятроўцы**

Але ўжо праз тыдзень патэлефанаваў Чайкоўскі. Прасіў прывезці пустыя падробныя дакументы на аўтамабілі. «У Маскве сустрэліся ўначы. Ён сказаў, што машына тая на Пятроўцы — затрыманая. Маўляў, трэба вырашаць нешта, бо я іх падставіў. Напісаў распіску, што гэта я прадаў яму «Мазду». Аддаў 2600 ці 2700 даляраў, дакументы, якія прывёз. І вінен быў яшчэ 5000 даляраў». Ён быў пастаянным кліентам беларуса. Так, у Мінску за $100 набываў адзін тэхпашпарт, а прадаваў Чайкоўскаму па $700. Бізнэс, аднак.

Між іншым, Дзмітрый Чайкоўскі з канца 2011 знаходзіцца ў федэральным вышуку. «Паколькі Дзіма — бандыт, давялося яму вярнуць грошы», — так Кулік тлумачыў падчас расследавання.

Пасля такой размовы ў Маскве ён адправіўся цягніком у Мінск. Папярэдзіў сябра, каб той сустрэў на чыгуначным вакзале. Там іх абодвух і затрымалі.

Кулік і Лотыш не адмаўляюць сваёй віны. Толькі з некаторымі дэталямі ў абвінавачанні не пагаджаюцца. Нягле-дзячы на розныя ролі ў забойстве, ім абодвум пагражае самае суровае пакаранне — аж но да расстрэлу. Дзеці Таццяны Слонімскай падтрымліваюць самае жорсткае пакаранне забойцам сваёй маці.

...«Магчыма, у той момант проста моцна спалохаўся. Не ў машыне пытанне — у мяне былі і лепшыя. Не хацеў больш трапіць у турму», — так тлумачыў на судзе Кулік. Лотыш паправіў сябра: забіў жанчыну выключна з-за той машыны. Як суддзя паставіцца да спробы Куліка прыкрыць сваю разважлівасць звычайным спалохам? Гэтая акалічнасць можа нязначна паўплываць на прысуд.

Сяргей Макарэвіч

## Забіў для «задавальнення палавой жарсці»

**Хлопец пад наркатой забраў жыццё 19-гадовай сяброўкі.**

Труп Алесі знайшоў вартаўнік раніцай 29 жніўня 2013 каля рэчышча Дома творчасці моладзі. У той жа дзень быў затрыманы 19-гадовы раней неаднаразова судзімы мясцовы жыхар.

Забітая працавала ў рэстаране «Палессе» кандытарам. У тую ноч яна вярталася з дня нараджэння. Правесці яе ўзяўся знаёмы.

Цяпер следчыя скончылі расследаванне, хлопец знаёміцца з матэрыяламі справы. Ён абвінавачваецца ў забойстве з асаблівай жорсткасцю, злосным хуліганстве, крадзяжы, наўмысным нанясенні цяжкага цялеснага пашкоджання, рабунку, дзеяннях сэксуальнага характару. Аказалася, што ён быў нападпітку і пад наркатой, калі праводзіў Алесю.

«Абвінавачаны з мэтай задавальнення сваёй палавой жарсці з садысцкіх схільнасцяў пачаў наносіць шматлікія ўдары па целе дзяўчыны, пасля чаго насуперак яе волі здзейсніў у адносінах да яе іншыя дзеянні сэксуальнага характару», — паведамілі ў Следчым камітэце. І працягваў біць дзяўчыну: пашкоджанні сталі прычынай смерці. Пасля гэтага ён скраў яе рэчы.



СМ

### Сціісла

**80-гадовы забойца**

Пенсіянер з Баранавіцкага раёна адправіцца за краты на 16 гадоў і адзін месяц. У лістападзе 2013 ён выпіваў з аднавяскоўцамі: 77-гадовай жанчынай і аднагодкам, 80-гадовым мужчынам. Калі гаспадар пачаў намякаць на інтым, жанчына вырашыла сысці. Але той накінуўся на яе з качаргой. Акрываўленая, яна здолела ўцячы. А вось аднавяскоўца гаспадар збіў так, што праз тыдзень ён памёр.

**П'яны бяспраўнік збіў дзіця**

Трагедыя адбылася ў вёсцы Брожа Бабруйскага раёна. 33-гадовы мужчына ехаў на незарэгістраваным матацыкле. Быў п'яны, без правоў. Не справіўся з кіраваннем і выехаў на ўзбочыну, дзе ішлі бабуля і 7-гадовая дзяўчынка. Дзіця загінула.

**Прыкрылі сталічнае наркатаксі**

Затрымалі мінчука, які ў арандаваных гаражах трымаў амаль 2,5 тоны насення маку. Выявілася, што мак ён прывозіў з Заходняй Еўропы і прадаваў наркаманам. А для гэтага арганізаваў сетку так званага наркатаксі.

**Гвалтаўнікі — бацька і сын**

У Мінску арыштаваны бацька і сын за згвалтаванне 22-гадовай дзяўчыны. Мужчыны прыехалі ў сталіцу з Клецка на заробкі. Вечарам на прыпынку сустрэлі студэнтку, якая спазнілася на апошні тралейбус. Прапанавалі падвезці. А пасля прыгразілі, што заб'юць, калі будзе крычаць.

КМ

# Каб добра вучыцца, трэба шмат спаць

Даследаванне пацвярджае неабходнасць сну **для запамінання**.



Карысць сну для здароўя і добрага самаадчування з'яўляецца аксіёмай. Што сон неабходны для эфектыўнага навучаня, навукоўцы ведалі і раней. Але цяпер, здаецца, каманда даследчыкаў з Амерыкі растлумачыла механізм узаемасувязі сну і навучання.

Вэньбаё Ган з Лэнгонскага медыцынскага цэнтра ў Нью-Ёрку паставіў эксперымент на мышах. У чэрапе жывёлаў зрабілі спецыяльныя «вокны», каб вывучаць кару галаўнога мозгу. Мышэй падзялілі на дзве групы і вучылі новаму навыку: хадзіць па паваротным стрыжні.

Першай групе мышэй на практыкаванні давалі менш часу, але ім дазвалялі выспацца. Другой групе мышэй адводзілі больш часу на практыкаванні, але прымушалі не спаць.

Пасля навукоўцы лазерным скануючым мікраскопам «зазірнулі» ў мозг мышэй. Выявілася, што ў мозгу мышэй, якія спалі, актыўна з'яўляліся дэндрытныя шыпікі — элементы, адказныя за сувязь паміж нейронамі. Мышы з першай групы навучаліся лепш, і навукоўцы дапусцілі, што разгалінаваная сувязь паміж нейронамі мозгу служыць доўгатэрміновым сховішчам для новай інфармацыі.

Больш за тое, навукоўцы высветлілі, што фарміраванне міжнейронных сувязяў адбываецца ў фазе глыбокага сну. Таму для паляпшэння вынікаў запамінання варта перагледзець падыход да справы: павелічэнне часу навучання зусім не гарантуе, што ў галаве застанецца больш.

**Кірыла Хілько**

# Кахаліся на балконе і зabіліся

Маладая пара **звалілася з балкону** ў Лондане.

Трагічны выпадак адбыўся 11 чэрвеня. 19-гадовая дзяўчына Анастасія Тацік і мексіканскі 18-гадовы хлопец Мігель Рамас зваліліся з шостага паверха падчас спробы заняцца на балконе сэксам.

Тацік — грамадзянка Расіі, якая жыла ў Лондане і навучалася ў коледжы *Bellerbys*, які робіць акцэнт на адукацыю для замежнікаў і кошт навучання ў якім дасягае 21 тысячы фунтаў у год.

Мігель Рамас прыехаў у Лондан за тыдзень да сваёй гібелі, каб прайсці курс англійскай мовы. Англійскія СМІ паведамляюць, што Мігель быў сынам мексіканскага палітыка.

Туцік і Рамас пазнаёміліся ў ноч здарэння на вечарыне з нагоды заканчэння экзаменацыйнай сесіі. Студэнты сабраліся ў кватэры ў дарагім жыллёвым комплексе Knights Tower («Рыцарская вежа»). Маладыя людзі спадабаліся адно аднаму і вырашылі адасобіцца ад кампаніі на балконе.

Самсон Агунтаа, які жыве ў кватэры насупраць, бачыў, як маладыя людзі доўга цалаваліся і абдымаліся на балконе. Затым пара захацела пайсці далей і заняцца сэксам. Мігель рабіў некалькі спробаў пасадзіць Анастасію на парэнчы балкона. Падчас адной з такіх спробаў Тацік кульнулася назад і ўцягнула хлопца за сабою.

Суседзі і сябры пары, які сталі відавочцамі падзення, адразу выклікалі хуткую. Аднак медыкам заставалася толькі канстатаваць смерць.

Расійскі партал «Лайфнньюз» пісаў, што пара звалілася праз «крохкія парэнчы балкону, што надламіліся». Сапраўды, у жылым комплексе Knights Tower шкляныя балконы, але яны трывалыя і ні ў адным іншым СМІ не ўзгадваецца пра тэхнічную няспраўнасць пабудовы.




Анастасія Тацік і Мігель Рамас.



Жылы комплекс Knights Tower.

**Яўген Крэйда**

# Упершыню ў гісторыі камп'ютарная праграма змагла выдаць сябе за чалавека

Камп'ютарная праграма, распрацаваная ўкраінцам Яўгенам Дземчанкам і расійскім інжынерам Уладзімірам Весяловым, стала першай у гісторыі, якой удалося прайсці тэст Цьюрынга.

Камп'ютар змог пераканаць 33% журы, што з імі размаўляе 13-гадовы хлопчык з Адэсы Яўген Густман.

Памерлы ў 1954 годзе брытанскі матэматык Алан Цьюрынг прыдумаў тэст на «чалавечнасць» для камп'ютараў, які і атрымаў назву «тэст Цьюрынга». Галоўны крытэрый тэста — здольнасць мець зносіны з людзьмі так, каб яны не западозрылі, што маюць справу не з чалавекам. Іншымі словамі, тэст паказвае, наколькі моцна распрацоўшчыкі змаглі рушыць наперад у стварэнні штучнага інтэлекту.

Для праходжання тэста Цьюрынга камп'ютар павінен «падмануць» як мінімум 30% суразмоўцаў. Раней ні адной праграме гэтага не ўдавалася.

**unian.net**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# СталініЯДа, альбо Д'яблава кола

...Першы сапраўдны спалох у дзяцінстве я зведаў у калідоры Опернага тэатра, па якім, нібыта па нейкім коле, мы, вучні музычнай школы, гойсалі ў перапынках паміж рэпетыцыямі хора.

Рыхтавалася Дэкада беларускага мастацтва ў Маскве, яе заключны канцэрт. І каго толькі не сустракалі мы ў тым калідоры! Вось паважна плыве па ім Ларыса Пампееўна Александроўская — перахоплівае дыханне ад яе прыгажосці; вось маленькі, увесь у хвалях адэкалону, рудаваты, у чорным фраку з залатым медалём народнага артыста, заўжды з чырвоным тварам, знакаміты тэнар Балоцін — ягонае імя Ісідар чамусьці падаецца нам недарэчным. Як, зрэшты, і «Пампееўна» Александроўскай. А вось Мікалай Ворвулёў — закінуў галаву дагары і нечым прапалосквае свой барытон... Усяго паўвека пражыве, памрэ ўжо ў Кіеве «Ой, бацька мой, Нёман»... Ды што там! Сам Мікалай Ахлопкаў, бялявы, з троху лупатымі вачыма, узвышаецца над усімі, бы Гулівер, пляскае ў далоні — «Стоп! Стоп! Яшчэ раз...» — ставіць канцэрт і не ведае, што ён адкладзецца разам з дэкадай на два гады. Бо які ж гэта канцэрт, калі кола гісторыі, пакінуўшы за сабой рэкі крыві, набліжаецца да 5 сакавіка 1953 года, да ўсенароднай жалобы...

А тады, мо недзе ў студзені, калі мы з Сашкам Ахрамéнкам гойсалі адзін за адным, я раптам уткнуўся ў чыйсьці шорсткі жывот. Падняў вочы. На мяне глядзеў... Сталін. «Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?»...

Прайшло больш за 60 гадоў. Але коціцца і коціцца па краінах былога СССР д'яблава кола сталіншчыны. То, як прывід, з'явіцца і пакоціцца з Санкт-Пецярбурга «сталінобус» з выявай сатлелага генералісімуса... То нейкія «групы таварышаў» пачнуць збіраць грошы на новы помнік у Мінску.

Апошнім разам кола пушчана з Крамля, ад імя нібыта «ветэранаў» — вярнуць Сталінград. Маўляў, да чалавека са злавесным імем Сталін гэта не мае аніякага дачынення.

Сапраўды — што чалавек?! «Нэт чэлавека — нэт проблемы»... Дык вось жа чалавека няма, а праблема ёсць.

Чалавека, дакладней ягоную мумію, я меў сумнеўнае шанцаванне бачыць у 1958-м, праз пяць гадоў пасля жахлівай сустрэчы ў Оперным.

Сышоўшы ў халоднае падземелле і павольна прайшоўшы наўкол саркафага, я быў проста ўзрушаны неадпаведнасцю аблічча яшчэ нядаўняга ўладара паўсвету з пасмяротнай рэальнасцю. Больш за ўсё мяне ўразілі нізкі лоб і рэдкія сівыя валасы, з-пад якіх адсвечвала сінюшная скура абяскроўленай галавы. Не выключана, зрэшты, што віной таму агіднаму ўражанню было яркае нерухомае святло ў саркафагу, вакол каторага павінен быў па задуме творцаў відовішча заставацца густы, такі ж нерухомы, змрок...

> **Я раптам утыкнуўся ў чыйсьці шорсткі жывот. Падняў вочы. На мяне глядзеў... Сталін**

Калі б згаданым «ветэранам» пашанцавала пабываць у тым падземным увасабленні пекла, наўрад ці яны здолелі ўявіць сабе асобу іх куміра, якой яна была насамрэч. Патрэбна сапраўды д'ябальская фантазія, каб надзяліць ідала хоць троху прывабнымі чалавечымі рысамі. Але «ветэранам» гэта не трэба. «Ветэранам» патрэбны менавіта ідал, а не карантышка на крывых нагах, якім ён запомніўся паплечнікам па палітычна-крымінальным бандытызме. «Чалавечышча» патрэбны, пад уладай каторага было «не ўсё так дрэнна».

«Чалавечышча», што праўда, «харчаваўся» чалавечынай на шостай частцы сушы.

Але гэта «ветэранаў» не бянтэжыць.

«Чалавечышча», што праўда, быў сааўтарам самай крывавай бойні XX стагоддзя, што забрала дзясяткі мільёнаў жыццяў.

Тых дзясяткаў мільёнаў, без нямога крыку каторых будзе падласцю любы рэферэндум па вяртанні Сталінграда.

Але і гэта «ветэранаў» не бянтэжыць.

Праблема, аднак, не ў асобе Сталіна, і нават не ў «ветэранах», якія мо толькі на постсавецкай прасторы маюць схільнасць да несупыннага размнoжвання.

Праблема ў мільёнах сталінчыкаў, што затаіліся ў свядомасці прыхільнікаў «жалезнага парадку» і «цвёрдай рукі».

Праблема ў мільёнах сталінчыкаў, што хаваюцца ў павуцінні імперскасці ў чаканні новых ахвяр.

Ды ці хаваюцца? Ужо, мусіць, рыхтуюцца да «маршу ватовак» у падтрымку так званай «Наваросіі», да якога заклікае Валеры Трэцьякоў. Відаць, стаміўся ад інтэлектуальных практыкаванняў вакол украінскай драмы... Яно так, у ватоўках працей. У чым жа яшчэ вяртацца ў сталіншчыну?!

А мы ўсё верым у тое, што адбыліся вялікія змены, што звароту да сталінскай мінуўшчыны няма. І тыя ці іншыя праявы ўсёй гэтай сталініЯДы лічым містыфікацыяй, клаўнадай і фарсам.

Але Крым — не фарс.

Данбас — не фарс.

Вяртанне Сталінграда — не фарс.

Не можна лічыць фарсам тое, што адбываецца пад смяротную завіруху.

...«Ты чаго, хлопчык? Спужаўся?» — Сталін ласкава паклаў мне на стрыжаную галаву цёплую далонь. Супакоены, я ізноў падняў вочы. У вусах — усё тая ж спагадлівая ўсмешка. Але погляд жоўты, рысіны... «Правілна, малчык. Баісь...»

Увайшоў у ролю.

# Футбаліст з адным яечкам

**Герой тура — недэрландзец Ар'ен Рабэн.**

30-гадовы Ар'ен Рабэн стаў адным з архітэктараў перамогі Галандыі над Іспаніяй.

Галоўная сенсацыя першага тура — буйная параза Іспаніі. Той самай Іспаніі, якая выйгравала тры апошнія топ-спаборніцтвы. Здаецца, і склад у пірэнейцаў не надта змяніўся, але механізм ужо не той — рыпіць, ламаецца. Галандцы знайшлі найтанчэйшае месца, згаьбіўшы іспанцаў — 5:1. Па два галы забілі Робін ван Персі і Ар'ен Рабэн.

### Фінал

У вырашальнай гульні на чэмпіянаце свету 2010 года сышліся Іспанія і Галандыя. На 62-ой хвіліне матча Ар'ен Рабэн меў булітны выхад з брамнікам «чырвонай фурыі» Ікерам Касільясам. Рабэн схібіў, Касільяс выйшаў з гэтай дуэлі пераможцам. Мабыць, гэта самы значны промах у кар'еры 30-гадовага футбаліста.

Галандыя тройчы гуляла ў фіналах мундыяляў, але кожнага разу прайгравала вырашальны матч. У 2010-м у дадатковы час Андрэс Іньеста прынёс перамогу іспанцам, Рабэн быў за пару сантыметраў, каб перахапіць у той атацы мяч, але таксама не змог.

«Расчараванне — частка кар'еры спартсмена. Той промах я не забуду ніколі. Але адбылося тое, што адбылося. Нічога з гэтым парабіць нельга», — кажа Рабэн.



Ар'ен Рабэн з Бернадзьен Эйлер яшчэ са школы.

### Перамог рак

Рабэн — адзін найлепшых футбалістаў сучаснасці. Ён выйграваў чэмпіянаты Галандыі, Англіі, Іспаніі, Германіі. Перамагаў з «Баварыяй» у Лізе чэмпіёнаў. Забіваў паўтары сотні галоў, але самую галоўную сваю бітву ён выйграў яшчэ ў 20-гадовым узросце.

Калі ён гуляў у складзе англійскага «Чэлсі», дактары дыягнаставалі ў Рабэна рак яечка. На шчасце, на ранняй стадыі. «Я быў у шоку ад дыягназу. Вельмі перапалохаўся», — казаў галандзец.

Рабэн лысы не таму, што яму так падабаецца, а таму, што валасы выпалі ў выніку хіміятэрапіі. А яшчэ ў Ар'ена выдалілі адно з яечак. Але хваробу перамагчы атрымалася.

### Хорт з Бедзюма

Напэўна, мала ў каго з футбалістаў ёсць столькі мянушак, як у Рабэна.

«Завадны Апельсін» — гэта не толькі раман Энтані Бёрджэса і фільм Стэнлі Кубрыка. Рабэна «завадным» называюць праз яго няўрымслівасць на полі, самааддачу. А «Апельсін», вядома, бо традыцыйныя колеры галандскага футбола аранжавыя.

«Крыштальны чалавек». Калі Рабэн гуляў у мадрыдскім «Рэале», то хадзіла такая показка, што траўму галандзец атрымлівае кожныя пяць дзён. На жаль, цяжкіх пашкоджанняў за кар'еру Рабэн не пазбег.

«Хорт з Бедзюма». Бедзюм — гэта родны горад Рабэна на поўначы Галандыі. А «хорт», бо футбаліст — такі самы паджары і хуткасны, як сабакі такой пароды. Стаметроўку Рабэн прабягае за 11,3 секунды. Некаторыя спрынтары пазайздросцілі б.

Яшчэ Рабэна называюць «Магічным Ар'енам», «Ракетай», а ўжо быць «Лятучым Галандцам», мабыць, наканавана кожнаму моцнаму футбалісту з краіны цюльпанаў.

### Не Казанова

Рабэн не можа пахваліцца сваімі рамантычнымі адносінамі з дзясяткам мадэлек, як бразілец Неймар. У Рабэна шчаслівы шлюб з школьнай сяброўкай Бернадзьен Эйлер. У пары трое дзяцей.

**Зміцер Панкавец**



Пепе нешта «шэпча» на вушка Мюлеру.

**Антыгерой тура**

# Грубіян Пепе

**Ёсць меркаванне, што некаторых футбалістаў варта выдаляць яшчэ да іх выхаду на поле.**

Спартыўныя журналісты часта складаюць спіс самых грубых футбалістаў свету. Апошнія гады на вяршыні хіт-парадаў нязменна трапляе 31-гадовы партугалец Пепе.

Кеплер Лаверан Ліма Ферэйра (поўнае імя Пепе) нарадзіўся ў Бразіліі, але ў 18 гадоў перабраўся гуляць на партугальскі востраў Мадэйра. Праз нейкі час прыняў і партугальскае грамадзянства.

Кажуць, што хобі Пепе — паляванне. Часам здаецца, што палюе ён не толькі на звяроў, але і на людзей (канечне, на футбольным полі). На Ютубе паўтара мільёны праглядаў набрала відэа, як Пепе на горкі яблык збівае няшчаснага Хаўера Каскера. А колькі ад Пепе даставалася Леанэлю Месі і іншым гульцам «Барселоны», не перадаць. Падумаеш лішні раз перад тым, як злаваць такога чалавека.

Немцы на чэмпіянаце свету Пепе разззлавалі. Ужо ў сярэдзіне першага тайма яны выйгравалі з лікам 2:0. У адной з атак Томас Мюлер рваўся наперад, але Пепе жорстка спыніў немца рухам рукой у твар. Праўда, партугальцу гэтага аказалася мала. Ён вярнуўся да Мюлера, нешта «ласкавае» шапнуў на вушка, і вельмі міла баднуўся з ляжачым. Ясна, што пасля гэтага Пепе пабачыў перад сабой чырвоную картку. Абяскроўленыя партугальцы ў меншасці саступілі Германіі з разгромным лікам — 0:4.

**ЗП**

**Беларускія грубіяны**

З інтэрв'ю былога футбаліста зборнай Беларусі Алега Страхановіча сайту by.tribuna.com.

«Найлепшым у маёй кар'еры ў плане байцоўскіх якасцяў быў Вова Сарачынскі. Гэта ўвогуле! Мы ў Брэсце гулялі. Першая трэніроўка. Праца ў парах, тройках. Звычайна хтосьці камусьці можа саступіць, у стык пайсці не да канца. Абы траўмы не было. А Вову без розніцы — свой або чужы. Біў усіх. Брамнікаў у тым ліку. Мы яшчэ трэніраваліся на пясчаным полі. Вова калі каціўся, яго часам не відаць было. Толькі воблака пылу рассейваецца, а з яго Вова выходзіць, як герой баевіка. Адно вока з-за пяску не бачыць. Але яму ўсё роўна — зноў ляціць у падката. Бывае, на трэніроўцы зловіш Сарачынскага, пойдзеш ад падкату, бяжыш далей, але тут жа чуеш дыханне ззаду — Вова наганяе.

Быў яшчэ такі Ламака. У нататнік прозвішчы нападнікаў запісваў, якія яго пакрыўдзілі або якіх ён зламаў: «Во, прааперааваны без анестэзіі, яшчэ адзін пацыент». Лось, здаравенны, проста машына, кікбаксёр. А мне 19 гадоў. Я думаў: супраць мяне Майк Тайсан гуляе!

Ігар Кавалевіч — магутны, моцны, проста жалезны. Кавалевіч нават без шчыткоў гуляў. «Прессбол» падсоўваў у гетры. У шчытах яму было няёмка. Костка ў костку заўсёды ішоў».

**Новаўвядзенні чэмпіянату**

# Спрэй і відэафіксацыя

**Цяпер футбалістам цяжэй ісці на хітрыкі.**

Мабыць, многія гледачы былі ўражаныя, калі ў матчы адкрыцця мундыялю паміж Бразіліяй і Харватыяй японскі арбітр Юіці Нісімура выцягнуў з кішэні балончык са спрэем. Ім суддзя абазначыў мяжу, на якой павінна стаяць «сценка» пры розыгрышы штрафных. Раней такога не было.

Арбітр адсоўваў абаронцаў на адлегласць 9 метраў, але пакуль заглядаўся ў іншы бок, «сценачка» ціхенька перамяшчалася на некалькі крокаў наперад, каб перашкодзіць удару. Каментатар Маслачэнка называў гэта «маленькімі футбольнымі хітрыкамі».

Цяпер нікуды не зварухнешся. Бо мяжа абсалютна бачная. «Выдатная рэч», — пракаментаваў навоўвядзенне найлепшы англійскі арбітр Говард Уэб. Спрэй выціскаецца, як пенка для галення, а праз пару хвілін знікае, таму слядоў не застаецца. Такое ноухау спрабавалі ўвесці ў футбол ад 1980-х, але атрымалася толькі цяпер. Здаецца, і футбалісты, і суддзі задаволеныя.

### Быў гол ці не?

Цяпер на гэтае пытанне будуць адказваць не толькі суддзі, але і электронная сістэма *goal line technology*, якая апрабоўваецца на мундыялі. Ужо ў першым туры яе давялося выкарыстаць. У матчы Францыя — Гандурас нападаючы Карым Бензэма трапіў у штангу, потым мяч паляцеў у спіну варатару гандурасцаў, а адтуль — у вароты. Ці перасёк мяч лінію? Відэафіксатар узяцце варот залічыў, суддзя даверыўся рашэнню бяздушнай машыны.

На мінулым чэмпіянаце гэткім чынам арбітр не пабачыў чысты гол Лэмпарда ў вароты Германіі, што каштавала Англіі вылету з мундыялю. Цяпер імавернасць такой памылкі істотна зменшаецца.

**ЗП**



# «Оны самі»

Двух хлопцаў у адной вёсцы знайшлі **нежывымі** ў адзін дзень.

Вёска Сярэднія Печы. Не вялікія і не малыя — Сярэднія. І ў той сярэдняй вёсцы — два нябожчыкі. Не на Данбасе, не ад рук тэрарыстаў — Лельчыцкі раён, Палессе.

Ад Мінска да Сярэдніх Печаў — 300 км. Дарога ляжыць на Слуцк, Старобін, паварот перад Мікашэвічамі, пасля Жыткавічы... Па дарозе багатыя беларусы прадаюць лісічкі, клубніцы. І агуркі — побач Століншчына. Але Лельчыцкі раён — гэта не Заходняя Беларусь.

Раён — з глухіх. Тут жыве 27 тысяч чалавек (за апошнія 15 гадоў раён страціў амаль 5 тысяч). Але гэта другі па плошчы раён Беларусі (на першым месцы Столінскі).

Год таму ўрад заявіў пра стварэнне прамысловага парку «Палессе-Лельчыцы», каб у ім здабываць карысныя выкапні. Але планы ў жыццё пакуль не ўвасобіліся. Пакуль тут толькі балоты Прыпяцкага нацыянальнага парку.



### «Не п'яніцы такія, каб сказаць»

Сярэднія Печы стаяць на дарозе Жыткавічы—Лельчыцы, за 18 км ад райцэнтра. На галоўнай вуліцы, забудаванай цаглянымі дамамі, мы шукаем прыкметы нядаўняга пахавання. Хаця б яловыя галінкі. Пуста.

«Чаго вы прыехалі? У газету пісаць? Што тут разбірацца — оны самі... У іх канфлікт быў, — расказвае вяскоўка, тут гавораць пераходнай ад украінскай да беларускай гаворкай. — Што гэта за гора такое ў нашым сяле?»

Маладыя хлопцы — «яны не п'яніцы такія, каб сказаць. Ну, бывае, вып'юць».

Хлопцы павесіліся ў розныя дні. І не звязаныя іх смерці паміж сабой. Знайшлі проста ў адзін дзень: аднаго ў сваім двары, другога — у жанчыны.




### 22 і 23

Андрэю было 22 гады, Мікалай толькі 3 чэрвеня сустрэў 23 дзень нараджэння.

Малодшы вучыўся ў Мазыры ў педуніверсітэце, старэйшы працаваў трактарыстам у мясцовай гаспадарцы.

«Маці напісала заяву — няма хлопца з нядзелі. А мы на Тройцу сядзелі [8 чэрвеня], Андрэй праходзіць: «Здрасце». Ідзе той стараной, зноў здароваецца. Я кажу: «Во, зноў здароваецца». А ён: «Лепш сто разоў». Сапраўды, лепш сто, чым ні разу. Вечарам не прыйшоў дамоў, у панядзелак няма. А ўчастковы кажа: «Трэба ў сваім селішчы глядзець». Адкрываюць сенавал — кароў не трымаем, — а ён вісіць... Павезлі ў Мазыр на ўскрыццё...

Тут павазілі па сяле нябожчыка, як паложана, а ў хату ўжо не заносілі. Ён такі цёмны быў, а чаго ў яго так валасы пабялелі. Столькі грыму наклалі на твар — як маска. Але ўсё адно трупныя плямы былі. І яму ніяк 20 гадоў не дасі — быццам стары 90-гадовы».

Хлопцаў пахавалі ў адзін дзень, 11 чэрвеня. Спачатку Мікалая вяскоўцы правялі. А пасля Андрэя. Што магло такіх маладых штурхнуць на самагубства? На вёсцы нічога не схаваеш ад людзей.

### Жыў з жанчынай старэйшай

«Коля з жанчынай старэйшай жыў. У яе дочкі дарослыя — адна ў 11-м класе, адна ў 10-м, адна мо ў 7-м. Кажуць, што яна яго рэчы сабрала, каб дадому ішоў. Бо яго міліцыя спаймала, нецвярозы быў — 7 мільёнаў штрафу далі. Ён узяў сабе нешта да галавы. Так людзі кажуць, а я не бяру судзіць... Гэта і не з-за жанчыны, я б сказала. Мала што скандалы ў хаце бываюць. Але яна была на пахаванні. Хаця бацькі не задаволеныя былі, — дзеляцца вяскоўцы. — А другі, Андрэй, і на работу быў уладкаваны ўжо. Ён у інстытут быў паступіў. Мо дзве сесіі здаў. А пасля сказаў, што кіне — кінуў і паехаў на заробкі з сябрам. За месяц зарабілі дзесьці па 10 мільёнаў. Прыехалі. Той Андрушка прагуляў свае. Бацька яго дамоў не пускаў. Казаў, каб ішоў куды хоча. Маўляў, 10 мільёнаў было — хоць бы мацеры даў трохі. А бацька яго такі самастойны, ён з такой радні — з кулакоў колішніх. Яны добра жывуць...»

Кіруемся на могілкі. Яны ў ляску.

Самагубства — вялікі грэх. Таму святары не адпявалі нябожчыкаў. Нашы продкі самагубцаў і хавалі за межамі могілак. Сёння так, здаецца, нідзе не робяць. Дзве свежыя магілы сярод свайго роду ляжаць.

Праверка ў Следчым камітэце яшчэ працягваецца.

### Па 14 мільёнаў палучаюць

Вяскоўцы не бачаць нечага глыбейшага за здарэннем — «проста так супала».

«Вёска вялікая. 382 чалавекі, — расказвае жыхарка Валянціна Ігнаценка. — 79 пенсіянераў. А дашкольнага і школьнага ўзросту — мо 109. У Сімавічы і ў Дуброву ў школу ходзяць, і ў нас — у дзевяцігодку. Ужо хацелі закрыць, але не. У нас падтрымка *(смяецца)*: быў настаўнікам у нас у школе — цяпер намеснік старшыні райвыканкама. Нармальна ў нас і моладзі. Яшчэ ў нас вёска не заглохла, хораша гуляюць, як збяруцца на танцы. І ўсе пры рабоце. Хто на «Аграсэрвісе», хто ў Лельчыцах. Хто вучыцца. А чалавек 5—10 нідзе не працуюць. Як і паўсюль. Бацькоў-пенсіянераў чавяць: за глотку — давай грошы...»

— Калі чалавек п'е — жонка робіць, калі жонка п'е — чалавек робіць. У «Аграсэрвісе» ў нас найбольшыя заробкі па раёне. Ленка, колькі ты палучаеш даяркай? — звяртаецца Валянціна Цімафееўна да жанчыны, што стаіць побач.

— Сем мільёнаў.

— Па 12, па 14 палучаюць! У нас комплекс пабудавалі, што зімой падлога з падагрэвам. Я была на экскурсіі. Там такая прыгажосць. Сядзіш — і неба бачыш праз столь.

— У горадзе столькі не плацяць, — заўважаю.

— А што яны ў горадзе робяць?! — рэзонна адказвае жанчына.

### Статыстыка

Кажуць, што адна смерць — гэта трагедыя, а дзве смерці — гэта ўжо статыстыка. І тая статыстыка злая. Па колькасці суіцыдаў Беларусь была то на шостым, то на сёмым месцы ў свеце. Гадоў пяць таму быў пік гэтай бяды, пасля лічба пачала зніжацца. Але і цяпер штогод па сваёй волі сыходзіць з жыцця каля дзвюх тысяч чалавек. А бывалі гады, калі і 3500...

Самагубцаў-мужчын у 6 разоў больш, чым жанчын. У вёсцы працэнт суіцыдаў у 2,6 раза больш, чым у горадзе. Такім чынам, Сярэднія Печы, насамрэч сярэднія.

І зарабляць у людзей ёсць магчымасць. Сем, чатырнаццаць мільёнаў — не штука. Значыць, не толькі ў заробку справа. Пытанне яшчэ ў тым, каб у чалавека былі іншыя прынцыпы ў галаве і іншыя магчымасці ў жыцці, свядомасць, нейкая мара, калі хочаце. Каб яго не на гарэлку і смерць быў настрой, а на самарэалізацыю.

**Сяргей Макарэвіч, Мінск — Сярэднія Печы.**
**Фота Сяргея Гудзіліна.**



«Што гэта за гора такое ў нашым сяле?» Валянціна Цімафееўна (злева) начытаная па гісторыі вёскі. Справа — Марыя Яшчанка.

**«Мы былі друіды»**

«Вёска раней называлася Сінькі. І мы не называліся беларусамі, а былі друіды, — правяла вясковы лікбез Валянціна Цімафееўна. — Пасля Сярэднія Печы. У нас печка была там, дзе калгас, — драўняны вугаль абпальвалі. Печ там (паказвае ў іншы бок) — шэрую гліну капалі (Ставок). А ў Дубраўцы печ была — белую гліну капалі. А ў сярэдзіне мы — Сярэднія Печы. З вайны пачалі так называць. А ў вайну вёску спалілі, і ўсе па хутарах жылі. А пасля пачалі сюды збірацца».

# Прахадныя балы ў гімназіі Мінска выраслі

Уступныя экзамены ва ўсіх гімназіях ладзяцца адначасова: сёлета яны прайшлі 3, 5 і 7 чэрвеня. Навошта бацькі вядуць дзяцей у гімназію? Яна мае перавагі перад сярэдняй школай.

Па-першае, там збіраюцца «моцныя» дзеці.

Па-другое, гімназічныя класы адрозніваюцца ад сярэднеадукацыйных паглыбленым вывучэннем матэматыкі і замежнай мовы. Гэтыя прадметы прысутнічаюць у раскладзе штодня, 5 гадзін на кожны тыдзень.

Па-трэцяе, гімназістам на выбар прапануюць большую колькасць факультатываў.

Па-чацвёртае, 10—11-я класы гімназій — прафесійна-арыентаваныя. На фізіка-матэматычным, філалагічным ці хіміка-біялагічным профілях старшакласнікаў мэтанакіравана рыхтуюць да паступлення.

Па-пятае, педагагічны калектыў некаторых гімназій складаецца з настаўнікаў высокіх катэгорый. Не ўсіх — у большасці мінскіх гімназій не толькі замежныя мовы, што даўно ўжо стала звыклым, але і многія іншыя прадметы выкладаюць выпускнікі па размеркаванні, а цякучка кадраў жахлівая. Размеркаванне сканчаецца, і моладзь уцякае ад нізкіх заробкаў. Але гэта іншая вялікая тэма.

### Праблемныя моманты паступлення ў гімназіі

- Спрабаваць паступіць можна толькі ў выбраную гімназію. Працэс здачы іспытаў не ўніфікаваны, як цэнтралізаванае тэставанне (ЦТ). Таму чынам, пры недаборы балаў вучань не можа «перакінуць» дакументы ў іншую гімназію — у пяты клас давядзецца ісці ў звычайную школу. Калі вучань ці яго бацькі пераацэняць магчымасці, дзверы ў гімназію нават і для адоранага дзіцяці будуць зачыненыя. Уніфікаванасць, як пры ЦТ, была б больш справядлівай.
- Калі дзіця захварэла на час іспытаў, здаць іх можна пазней. Але залічваюць тады толькі на дадатковыя месцы, якіх ужо можа і не застацца.
- Сумнеўным выглядае ўлік не толькі вынікаў іспытаў, але і гадавых адзнак па трох прадметах. Падыход да выстаўлення адзнак розны ў розных школах і настаўнікаў: хтосьці лёгка ставіць «дзесяць», у кагосьці веды ога-го-го, але цяжка здабыць нават «сем».

### Самыя прэстыжныя

Каб паступіць у гімназію, трэба здаць беларускую і рускую мовы і матэматыку. Да адзнакі за іспыты дадаецца гадавы бал па тых самых прадметах. У выніку, найбольшы магчымы бал — 60.

Самы высокі бал — аж 57! — зафіксаваны ў мінскай гімназіі №41.

Гэтая ўстанова прапануе і фізіка-матэматычны, і архітэктурна-мастацкі ўхілы. На паглыбленым узроўні тут вывучаецца малюнак, жывапіс, кампазіцыя, чарчэнне, матэматыка, фізіка і праграмаванне.

Гімназія някепская, але прычына такога звышвысокага бала можа хавацца зусім не ў мары дзяцей аб прафесіі праграміста ці гравёра. Проста праз невялікую напаўняльнасць гімназіі сёлета набіралі толькі адзін клас. А чым меншы набор, тым вышэй сягае прахадная планка. Летась у 41-ю можна было прайсці з 52 баламі.

Другое месца па прахадным бале занялі пяць гімназій: №1, 12, 13, 15 і 29. Каб трапіць у адну з іх, трэба было набраць мінімум 55 балаў.

Намесніца дырэктара гімназіі №1 імя Ф.Скарыны Ірына Цішчанка паведаміла, што ў гэтым годзе пяцікласнікамі тут сталі 103 малыя: «Профіль у нас з'яўляецца на III ступені адукацыі, у 10—11 класах. Так, гімназія была створана на базе англійскай спецшколы. Але ў нас ніякія прадметы не «правісаюць». Пра гэта сведчаць вынікі алімпіяд».

Ганарыцца гімназія, у тым ліку, перамогай Святланы Алейнікавай на алімпіядзе саюзнай дзяржавы «Расія і Беларусь: гістарычная і духоўная супольнасць» у 2012 годзе...

### Беларускамоўныя адстаюць

Што тычыцца беларускамоўных гімназій, прахадны бал у іх не дацягнуў да 50. Найбольшае спаборніцтва назіралася ў гімназіі №23, што каля плошчы Якуба Коласа. У яе залічвалі з 48 баламі. Менш за ўсё патрабавалася ў гімназіі №4 у Кунцаўшчыне — усяго 43.

У гімназіі №9 і №28 прахадны бал склаў 45 пунктаў, у гімназію №14 — 44.

### Не толькі плюсы

Міністэрства адукацыі зрабіла добрыя захады, каб выключыць карупцыю пры паступленні. Але ёсць і іншыя аспекты.

Супрацоўніца аднаго з мінскіх банкаў Крысціна Вітушка, якая робіць сайт «Нашыя дзеткі» для беларускамоўных сем'яў і ў якой сын акурат паступаў, бачыць праблему і ў дэвальвацыі статуса: «Гімназія — гэта ўстанова для таленавітых. Сумна назіраць, як колькасць гімназій расце. Цяпер паступленне запростае. Прахадныя балы пачынаюцца ад 42, хаця такі ўзровень ніяк не назавеш вартым статуса гімназіі. Прахадныя балы ў гімназіі мусяць пачынацца ад 50!

Таксама важна, каб іспыты праводзіліся на той мове, на якой будзе адбывацца навучанне ў гімназіі, — адзначае спн. Вітушка. — Ненармальна, што дзеці з рускамоўных школ матэматыку ў беларускую гімназію здаюць па-руску. А як вучыцца будзе?

Таксама я лічу замежную мову не менш важным прадметам, чым руская мова. Чаму не ўлічваецца гадавая адзнака па ёй, не праводзіцца экзамен?»

### «Толькі кантрольная»

Паступленне ў гімназію — стрэс для дзяцей. Часам бацькі свядома ці падсвядома ціснуць на дзіця. Гэта кепска! Наадварот, дзіця павінна ставіцца да экзамена спакойна.

«Я бачыла дзяцей, якія перад экзаменам маліліся, хтосьці сядзеў у позе лотаса і медытаваў, — расказала «НН» настаўніца беларускамоўнай гімназіі. — А ўсе ж экзаменацыйныя заданні агульнадаступныя ў зборніках, хоць на памяць вывучы. Лепш растлумачыць дзіцяці, што экзамен — гэта проста кантрольная, а не канец свету».

**Кірыла Хілько**



# Бандарэнка: **Сокал Альгерда — увасабленне ўлады**

27 чэрвеня Віцебск будзе святкаваць 1040-годдзе. Кульмінацыяй свята стане адкрыццё ў гістарычным цэнтры горада помніка вялікаму князю Альгерду. Пра гісторыю стварэння і сімволіку вобразу **расказвае скульптар** Сяргей Бандарэнка.

**«Наша Ніва»: Гісторыя з гэтым помнікам доўгая. Яшчэ год таму з'ўлялася інфармацыя, што ў Віцебску будзе ўсталяваны помнік Альгерду аўтарства скульптара Валерыя Магучага. Пасля той праект завярнулі. Вы, наколькі разумею, дапрацоўвалі помнік, першы варыянт якога не быў зацверджаны?**

**Сяргей Бандарэнка:** Не, я рабіў помнік ад пачатку, па ўласным эскізе. Хоць такога ўжо прынцыповага там няма адрознення ад першага варыянта.

**«НН»: Калі параўнаць «ранейшага» і «цяперашняга» Альгерда, ваш выглядае больш дынамічным: конь у руху, жэст рукі наперад...**

**СБ:** Так, конь ідзе алюрам, гэта такая даданая рысь.

**«НН»: На чым вы грунтаваліся, ствараючы вобраз?**

**СБ:** На жаль, іканаграфічнага матэрыялу тых часоў няма. Ёсць гравюры XVII стагоддзя.

**«НН»: Маеце на ўвазе Гваніні?**

**СБ:** Так. Там Альгерд — у італьянскіх даспехах XVI стагоддзя. Я адштурхоўваўся ад Гваніні, але ў канчатковым выніку грунтаваўся на сваіх уяўленнях пра тое, якім князь мог бы быць. І лічу, што ўрэшце вобраз склаўся.

**«НН»: А чаму абралі такі сюжэт — паляванне з сокалам?**

**СБ:** Якое ж гэта паляванне? Хто ездзіць паляваць у баявых даспехах? Тут іншая сімволіка: сокал — знак княжай улады. Дынаміка жэста адлюстроўвае такі дзяржаўніцкі пасыл. З жэстам, дарэчы, былі праблемы: спачатку ён быў крыху іншы, але камусьці не спадабалася, пабачылі асацыяцыі якіясьці... Таму я жэст змякчыў, руку падвярнуў трохі. І ўвогуле, так мала было часу — я зрабіў бы помнік нашмат лепшы.

**«НН»: У інтэрнэце ваш помнік крытыкуюць за неадпаведнасць гістарычным рэаліям: князь без галаўнога ўбора — маўляў, не хадзілі так князі.**

**СБ:** Існуе мноства помнікаў князям у шлемах. Я хацеў надаць вобразу новае гучанне: паказаць прамежкавы стан, паказаць, што князь едзе не на вайну.



Так мае выглядаць помнік на Уваскрасенскай плошчы Віцебска.

«НАРОДНЫЯ НАВІНЫ ВІЦЕБСКА»

**Альгерд**

(1296? — 1377) — вялікі князь літоўскі, сын Гедыміна. Валодаў Віцебскам, Крэвам, пакуль не стаў вялікім князем. У часе яго кіравання (1345—1377) тэрыторыя ВКЛ вырасла ўдвая за кошт паўднёвых і ўсходніх земляў.

**«Расійскія суайчыннікі» былі супраць**

«Казакі і расійскія суайчыннікі» ў 2013 заклікалі не дапусціць з'яўлення помніка князю, які «вядомы ганеннямі праваслаўных, шматлікімі паходамі на Маскву».

**«НН»: Яшчэ ў інтэрнэце пішуць, што гэты помнік нагадвае скульптуру Усяслава Чарадзея, які стаіць у Полацку.**

**СБ:** Усяслава рабіў не я, хоць падчас конкурсу праект набраў 60% галасоў. Але былы полацкі мэр Тачыла быў супраць таго, каб помнік рабіў я.

**«НН»: На якім этапе цяпер праца над помнікам Альгерду?**

**СБ:** Ён адліваецца на полацкім заводзе «Тэхналіт». Уласна, часткі яго ўжо зробленыя, цяпер ідзе зборка. Гэта першая такая буйная праца для іх. І ім моцна пашанцавала, што іх скульптар — яшчэ і ліцейшчык *(смяецца)*. Я ажыццяўляю аўтарскае кіраўніцтва адліўкай, бо недахоп досведу адчуваецца настолькі, што спачатку я нават быў у неўразуменні. Але яны вельмі адказна ставяцца, стараюцца. І, як я цяпер бачу, усё ідзе як след. Думаю, у тэрмін яны ўкладуцца.

**«НН»: Колькі фігура будзе важыць?**

**СБ:** Тры — тры з паловай тоны недзе. Залежыць ад таўшчыні сценкі. Чым танчэйшая — тым лепш, тым дакладней можна прапрацаваць дэталі. Я ж, можна сказаць, родапачынальнік дакладнага ліцця ў Беларусі. Вось каля мінскага цырка мае фігуры — гімнаста на кані і клоўны. Рукі клоўнаў прапрацаваныя ў тэхніцы дакладнага ліцця.

**«НН»: А што вы яшчэ рабілі для Мінска?**

**СБ:** Кампазіцыю «Трыумф» каля Мінск-Арэны і алею алімпійскіх памятных знакаў.

**«НН»: А якой вышыні будзе помнік Альгерду?**

**СБ:** Дайце ўзгадаць... Сама скульптура — 3,6 метра, і пастамент — 2,8 метра.

**«НН»: З двухпавярховы дом. Хоць гэта і не першы — пасля Усяслава Полацкага, — але, безумоўна, найбольшы конны помнік у краіне.**

**СБ:** Яго можна было яшчэ большым рабіць — там такая адкрытая прастора. Каб яму яшчэ метр вышыні дадаць, ён ідэальна б у яе сеў. Але тут была праблема: даводзілася ставіць помнік на ўжо гатовы пастамент. Дый пастамент прыйшлося падаўжаць: у папярэднім варыянце помніка фігура была больш кампактная.

**«НН»: Колькі каштуе стварэнне такога помніка?**

**СБ:** Я не ведаю, колькі каштуе ўвесь цыкл працаў, адзінае магу сказаць — разоў у 10 менш, чым у Расіі.

**«НН»: Чаму такая розніца?**

**СБ:** Бо ў нас праца скульптара каштуе ў разы меней. Але пра канкрэтныя сумы я не хацеў бы гаварыць, давайце знойдзем для нашай размовы больш цікавыя, творчыя тэмы.

**«НН»: Колькі часу вы працавалі з помнікам?**

**СБ:** Агулам месяцаў сем. Гэта рэкордныя тэрміны для такога праекта. Я быў выкліканы як «антыкрызісны скульптар», можна сказаць, даводзілася працаваць па 18 гадзін у суткі. Мы былі абмежаваныя датай адкрыцця, прывязанай да Дня горада. На жаль, у нас часта так бывае.

**«НН»: Ці праўда, што ўсе помнікі гістарычным асобам зацвярджае асабіста кіраўнік дзяржавы?**

**СБ:** Так, паводле заканадаўства, гэта робіць прэзідэнт. І, наколькі мне вядома, Лукашэнка мой праект ухваліў. Гэта норма існуе яшчэ з савецкіх часоў: раней Савет міністраў зацвярджаў такога ўзроўню помнікі.

**«НН»: Ну, то будзем спадзявацца, што ўрэшце ён будзе пастаўлены. Наступны конны помнік, які можа паўстаць у Беларусі, — гэта Міндоўг у Навагрудку.**

**СБ:** Так, конкурс на яго стварэнне яшчэ паспеў правесці Павел Латушка — у апошнія дні свайго знаходжання на пасадзе міністра культуры. Конкурс выйгралі разам я і Павел Лук.

**«НН»: Калі Міндоўга давядзецца рабіць вам — якая сімволіка будзе ў яго вобразе?**

**СБ:** Я хацеў бы выявіць Міндоўга на ўздыбленым кані. На галаве ў яго будзе карона, у руцэ — шалом. Праз гэта я хачу паказаць супярэчлівасць яго асобы, яго кіданні — нібыта ў яго дзве галавы.

**«НН»: Быў такі ці то анекдот, ці то праўда пра помнік Леніну з дзвюма кепкамі.**

**СБ:** Гэта праўда. Наколькі я ведаю, помнік не змяшчаўся ў майстэрні скульптара, рабіўся дзвюма часткамі асобна, вось скульптар і памыліўся.

**«НН»: А вам яшчэ давялося рабіць Ленінаў для гарадоў і мястэчак?**

**СБ:** Канечне, я заспеў той час. Я нават выйграў конкурс на помнік Леніну ў Карме, але пасля здарыўся Чарнобыль, горад пайшоў на адсяленне... Леніна мастакі называлі «кармілец», бо, падхалтурыўшы на стварэнні яго вобразу, можна было зарабіць і займацца сапраўдным мастацтвам. Іншая справа, што многія так і не навучыліся нічога рабіць, апроч Леніна. І яны, калі рухнуў СССР, засталіся ні з чым.

**Гутарыў Сяргей Мікулевіч**



**Сяргей Бандарэнка**

нар. у 1956 у Мінску. Скульптар. Вучыўся ў А. Бембеля, А. Анікейчыка.

# Ці пакажуць у Беларусі камедыю пра Кім Чэн Ына?

Камедыі пра дыктатараў раз за разам б'юць рэкорды. У 2012-м — у разгар арабскай вясны — свет надрываў жывоцікі, гледзячы «Дыктатара» Сашы Барона Коэна. Яго карыкатурны генерал-адмірал, падобны адначасова да Кадафі, Бен Ладэна, Ахмадзінежада і іншых сатрапаў Блізкага Усходу, быў гатовы рызыкаваць сваім жыццём, абы толькі дэмакратыя ніколі не прыйшла ў ягоную краіну.

І вось трэйлер новага галівудскага фільма пра сатрапа б'е рэкорды праглядаў у інтэрнэце. Гэтым разам гаворка пра рэальнага дыктатара. Камедыя «Інтэрв'ю» будзе пра тое, як два амерыканцы спрабуюць забіць Кім Чэн Ына. Таленавіты журналіст Дэйв (Джэймс Франка) і яго найлепшы сябар і прадзюсар Арон (Сэт Роген) маюць папулярнае ток-шоу. Аднойчы яны дазнаюцца, што паўночнакарэйскі дыктатар Кім Чэн Ын — іх вялікі фанат. Гэта шанец: яны дамаўляюцца на інтэрв'ю з ім. І тут пра гэта дазнаюцца амерыканская спецслужбы...

Акторы Франка і Роген памятныя амерыканскаму гледачу па серыяле пра старшакласнікаў Freaks and geeks («Чудзікі і додзікі»). Тут нібыта працяг гісторыі: хлопцы падрэслі, зрабілі кар'еру, але камедыйны шлейф цягнецца за імі, як парашут за Шціrліцам.

Кім Чэн Ын у трэйлеры старэйшы за прататып, яго генералы і падданыя — гладчэйшыя, чым на рэальных фота. Галівуд, што паробіш.

Ці пакажуць «Інтэрв'ю» ў кінатэатрах Беларусі? Як паведамілі карэспандэнту «НН» у аддзеле планавання і прагназавання УП «Кінавідэапракат», планаў на кастрычнік у іх «пакуль няма».

**КХ**

## Сцісла

**Міністр культуры паабяцаў помнік Янку Купалу ў Маладзечне**

Пра гэта Барыс Святлоў заявіў падчас 14-га Нацыянальнага фестывалю беларускай песні і паэзіі. Але адзначыў, што «пытанне ў грашовых сродках». Эскіз помніка, зроблены скульптарам Валяр'янам Янушкевічам, прайшоў экспертызу. На ўсталяванне трэба 1,2 млрд рублёў.

**У Дудутках рэканструююць Грунвальд**

Фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі «Наш Грунвальд—2014» пройдзе на тэрыторыі музейнага комплексу «Дудуткі» 19—20 ліпеня. Галоўнай яго падзеяй будзе рэканструкцыя Грунвальдскай бітвы. Таксама выступяць 25 музычных калектываў. Сярод іх, у прыватнасці, «Стары Ольса», Irdorath, «Нейра Дзюбель», «Тролль гнёт ель» (Санкт-Пецярбург). Будзе разбіты вялікі лагер па сярэднявечных рамёствах. Для гледачоў і гасцей будзе бясплатны лагер з месцамі для палатак.

**Акцёр Арнольд Памазан адзначае 75-годдзе**

Народнаму артысту Беларусі, акцёру тэатра імя Янкі Купалы Арнольду Памазану 14 чэрвеня споўнілася 75 гадоў. Памазан стварыў галерэю запамінальных сцэнічных вобразаў: Поп у «Тутэйшых» Янкі Купалы, Чарнавус у «Хто смяецца апошнім» Кандрата Крапівы, Андрэй Буслай у п'есе «Парог» Аляксея Дударава. За 30 гадоў ён тысячу разоў выходзіў на сцэну ў ролі Адольфа Быкоўскага ў «Паўлінцы».

**СМ**

# Дзед Хасан

**Віктар Ледзянёў.** Эсэ.

Неяк у нашыя дні людзі саромеюцца прызнаваць, што яны чагосьці калісьці не ведалі. Хутчэй наадварот, знаходзіцца шмат тых, хто яшчэ ў далёкім дзяцінстве ўсё ведаў і разумеў. Нават папярэджваў. Часам гэта смешна, а часцей — сумна. У дзяцінстве я не ведаў, каму належыць паўвостраў Крым. Расіі? Украіне? Ведаў, што СССР. І ўсё.

Нядаўна ўзяў стары атлас, выпушчаны яшчэ ў 1955 годзе, паглядзеў на карты і здзівіўся: як шмат змен адбылося ў свеце! Напрыклад, не знайшоў В'етнама і яшчэ многіх краін, якіх тады не існавала. Свет на месцы не стаяў. Паглядзеў і на Крым. Дакладна — чырвоны колер, Расія. Але ў дзяцінстве гэтага не ўсведамляў і не задумваўся.

Затое ведаў абсалютна дакладна адно. Крым — гэта радзіма крымскіх татар, якіх, па незразумелых мне тады прычынах, адтуль выселілі і адправілі ў Сібір. Потым даведаўся больш, і не толькі пра трагедыю татар, але і пра калмыкаў, чачэнцаў, паволжскіх немцаў... У школе сябраваў з немцам Максам Отам, калмыкам Амалем Куцепавым, габрэем Сашкам Шварцоўскім... Мне даводзілася бываць у калгасах Новасібірскай вобласці, дзе прозвішчы хлебаробаў былі спрэс нярускімі. Даярка Амелія Кох, трактарыст Паўль Мюлер, заатэхнік Рыхард Баўмер. Гэта тыя, хто не змог тады вярнуцца дадому, на родную зямлю. Потым, праз шмат-шмат гадоў, праходзіла адваротнае перасяленне, але ўжо толькі нашчадкаў тых, каго найвышэйшай воляй партыі і яе правадыра адправілі ў Сібір і Казахстан.

Сібір. Нікому не трэба тлумачыць, што там даволі халодна ўсім. А на спецпасяленні ўсе жылі ў дашчаных бараках, уцепленых шлакам паміж дошкамі. Шынель на рыбіным футры... Даставалася ўсім, але асабліва цяжка было тым, каго Сталін выгнаў з цёплых дабраславёных месцаў рассялення — Крыма, Калмыкіі, Каўказа. Вось і стаялі блізенька баракі — чачэнскія, татарскія, нямецкія... Нам, дзецям, было ўсё адно, як яны называліся, хто ёсць хто па нацыянальнасці: усе былі роўнымі і аднолькава няшчаснымі. Праўда, пра сваё няшчасце мала думалі. Больш думак было пра тое, як расцягнуць кавалак хлеба з соллю да вечара, калі маці прыгатуе штонебудзь паесці. Гулялі ў футбол латаным-пералатаным мячом, біліся барак на барак, потым мірыліся і зноў гулялі. Дзеці!

Але вечарамі ў нас быў яшчэ адзін занятак, які мы стараліся не прапускаць. Нават нашы маці адпускалі нас да самай каменданцкай гадзіны, калі мы ішлі да дзеда Хасана. Ён быў высокім, статным, злёгку касавокім, але, барані Божа, каб хоць нехта наважыўся з гэтай нагоды пажартаваць... Мы не ведалі, колькі яму было гадоў, напэўна, пад шэсцьдзясят, мы клікалі яго дзедам, хоць сваіх унукаў у яго не было. Можа, таму ён быў такім ласкавым і суровым адначасова з намі. Ён ведаў пра нас усё: калі і хто выйграў у футбол, лаяў тых, хто гуляў у карты ці курыў, яму былі цікавыя ўсе нашы хлапечыя гісторыі, ён слухаў усіх. А потым было самае цікавае — яго казкі. Колькі ён іх ведаў, не магу сказаць. Здавалася, што яны не паўтараліся, а можа, ён сам прыдумляў іх? Не ведаю. І героі яго казак былі заўсёды вельмі разумнымі, таму і заўсёды перамагалі ўсіх пачвар і злодзеяў.

А потым ён прасіў нас распавядаць, што мы зразумелі з кожнай казкі. У яго быў сапраўдны педагагічны талент, хоць, упэўнены і цяпер, не было ў яго ніякай спецыяльнай адукацыі, проста ён быў разумным і так па-майстэрску пераключаў нашу ўвагу з казак на тое наша перасяленскае жыццё, што казкі рабіліся чымсьці накшталт падручнікаў жыцця. І ён размаўляў з намі як з роўнымі.

Смелы ён быў? Безумоўна. Мы ў гэтым не сумняваліся. Тое, пра што маўчалі нашы мамы, ён казаў проста і адкрыта. Так мы даведаліся, што Савецкім Саюзам кіруе адзін чалавек, што вертухаі, якія лупяць нам даць пад зад, — дрэнныя людзі (як быццам мы гэтага не ведалі), што ёсць яшчэ партыя, у якой сабраліся адны ашуканцы, якія падманваюць самага галоўнага чалавека. Яшчэ ён прышчапляў нам самыя элементарныя, здавалася б, побытавыя паняцці, што нельга даносіць, нельга здраджваць сябрам, нельга падманваць бацькоў, што іх трэба любіць і паважаць. Мы ўсё разумелі. Ён рабіў гэта проста, як сам жыў і дыхаў. І, трэба сказаць, яго ўрокі не міналі дарма. Ніхто ні разу не «накапаў» на дзеда Хасана не толькі вертухаям, але нават бацькам.

У яго казках пераважалі добрыя героі, якія любілі больш за ўсё волю. Гэта імкненне да свабоды ён заклаў у кожнага з нас. Свабоды і справядлівасці. Не было ніякіх гучных слоў. Ён проста распытваў нас пра мінулы дзень, а потым паказваў на прыкладах, што і як мы зрабілі няправільна і як трэба было зрабіць. Ён не смяяўся з нашых памылак, а папраўляў, падказваў.

Неяк мы ганялі мяч, а дзед Хасан назіраў за намі. Мы ўжо скончалі гульню, калі з'явіліся двое вертухаяў нападпітку і пачалі спрэчку: хто далей выспяткам адправіць аднаго з нас у вялізную лужыну. Яны

## Пунсовыя ветразі на шхуне ля мыса Меганом і камуфляжная форма ад Юдашкіна — такое не сумяшчаецца

выбралі майго найлепшага сябра Макса і мяне. Што і казаць, мужыкі яны былі здаровыя, а боты ў іх кірзавыя. Па чарзе мы з Максам паляцелі ў лужыну. Я стараўся бегчы, колькі мог, і, нарэшце, упаў... Упаў няўдала, наткнуўшыся шчакой на ржавы цвік, што тырчаў з дошкі. Кроў палілася ручаямі, першым у лужыну паляцеў дзед Хасан. Калі ён выцягваў мяне, вертухаі заліваліся рогатам, гледзячы на сівога старога з дзіцем у руках. Дзед паставіў мяне на цвёрдую зямлю, падышоў да аднаго з рагатуноў, здаравеннага мужыка, і заляпіў яму звонкую аплявуху. Ад нечаканасці і, мабыць, усведамлення віны, той нават не зварухнуўся, а павярнуўся і пайшоў прэч... Мы здранцвелі — зараз дзеду можа быць дрэнна... Але ён супакоіў нас: усё будзе добра, а шайтанаў трэба караць. Яго ўрок мы запомнілі на ўсё жыццё. А шнар на маёй шчацэ да гэтага часу нагадвае пра той выпадак.

Дзіўныя гэта былі гадзіны, праведзеныя ў татарскім бараку, дзе не дазвалялася нават мець буржуйку, і мы сядзелі, захутаўшыся ва ўсё, што магло хоць неяк сагрэць. Сядзелі, мерзлі, але слухалі, разявіўшы раты. А яшчэ ён расказваў пра дзіўныя мясціны, дзе заўсёды было сонца, мора і круглы год цёпла. Гэта здавалася нам увасабленнем нейкага раю, цуду. Мы слухалі і не верылі нават таму аўтарытэту, якім быў для нас дзед Хасан. Так не бывае, не можа быць, каб заўсёды было цёпла, ды яшчэ і сіняе мора ў дадатак. Гэта, напэўна, думалі мы, таксама казка дзеда. Але гэта існавала насамрэч, гэта быў жыватворны Крым — яго радзіма, пра якую ён са смуткам казаў, як пра нязбытную мару, зямлю, куды ён ніколі не вернецца.

Ніхто з нас такіх месцаў ніколі не бачыў, а таму Крым для нас быў зямлёй запаветнай, хоць мы і не ведалі такіх слоў. З такім пачуццём я ехаў упершыню ў Крым і страшэнна баяўся, што ён не падасца мне такім казачным, такім дасканалым, якім я ўяўляў яго ў дзяцінстве пасля аповедаў дзеда Хасана. Але ён напраўду аказаўся яшчэ лепшым. Потым я шмат разоў прыязджаў туды, пабываў ва ўсіх яго кутках — ад Керчы да Сакі, лазіў на Сокал, начаваў у старажытнай Генуэзскай крэпасці, плаваў у сінім Чорным моры, захапляўся прыгожымі дзяўчатамі, знаёміўся з выдатнымі людзьмі, піў цудоўныя масандраўскія віны... Словам, Крым быў такім, якім яго любіў і памятаў да смерці дзед Хасан.

Рэферэндум. Нейкае страшнае і незразумелае слова. Ён усё вырашае. За каго? Для каго? Татары прыцікваюць рускіх у Крыме? Украінцы катуюць рускіх братоў? Не бачыў нічога падобнага і таму цяпер не веру. Але жорсткае іншаземнае слова «рэферэндум» усё перавярнула. Суседзі сталі ворагамі. Учорашнія сябры — ворагамі. Адно слова ўсё перакрэсліла. Гады гісторыі, сувязі сяброўства, стагоддзі нармальных адносін. Усё. І задаешся пытаннем: каму гэта трэба і для чаго? Прыхапіць кавалак, які выпадкова апынуўся на краі стала? Пабудаваць дом не ў Маямі, а дзе бліжэй? Дык хто не дае? Будуйце, купайцеся ў моры, адпачывайце на здароўе. Не, зноў адзін чалавек усё за ўсіх вырашыў: гэта маё! Расійскае!

Сёння я не ведаю, якой стала і стане дабраслаўлёная зямля Крыма. «Зялёныя чалавечкі»?! У маёй любімай Блакітнай бухце ў Новым свеце яны мяне проста напалохаюць. Гэта немагчыма — спалучэнне абсалютнай прыгажосці з аўтаматам Калашнікава. Пунсовыя ветразі на шхуне «Альфа» ля мыса Меганом і камуфляжная форма ад Юдашкіна. Такое не сумяшчаецца ні з розумам, ні з эмоцыямі. Па ўсім відаць, для мяне Крым, як у дзяцінстве, застанецца казачным і недасяжным, такім, як яго бачыў і памятаў у прамерзлым сібірскім бараку дзед Хасан.



**Віктар Ледзянёў**

Нар. у 1941 на Каўказе. Пісьменнік, журналіст. У дзяцінстве як сын «ворага народа» быў у лагеры пад Навасібірскам. Жыве ў Мінску.

## ІМПРЭЗЫ

### «Камарова — кола дзён»

**У вёску Камарова на Мядзельшчыне 21 чэрвеня** з'едуцца народныя майстры. Тут у дзявяты раз пройдзе выстава-кірмаш народных рамёстваў і промыслаў «Камарова — кола дзён». Размесціцца ўмельцы са сваімі вырабамі на тэрыторыі сядзібна-паркавага комплексу.

## ФУТБОЛ

### «Дынама» — «Шахцёр»

**21–22 чэрвеня** пройдуць матчы 14-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе. У суботу сустракаюцца:
«Тарпеда-БелАЗ» (Жодзіна) — «Дняпро» (Магілёў);
«Нафтан» (Наваполацк) — «Нёман» (Гродна).
**У нядзелю:**
«Дынама» (Мінск) — «Шахцёр» (Салігорск) — найцікавейшая сустрэча ўік-энда;
«Слуцк» — «Мінск»;
БАТЭ (Барысаў) — «Гомель»;
«Дынама» (Брэст) — «Белшына» (Бабруйск).

## КАНЦЭРТЫ

### Drum Ecstasy

**19 чэрвеня а 19 у бары Tarantino (Кастрычніцкая, 5)** грае гурт Drum Ecstasy.

## ВЫСТАВЫ

### Replika

**Галерэя сучаснага мастацтва «Ў» (Незалежнасці, 37А)** прэзентуе адкрытую выставачную прастору Replika — праект па падтрымцы маладых мастакоў. Любая творчая біяграфія пачынаецца з самага простага — кароткага выказвання мастака, яго рэплікі ўголас. Выставачны праект утвораны з чатырох самастойных экспазіцый на адной пляцоўцы.



### Уручэнне прэміі «За свабоду думкі» імя Васіля Быкава

**21 чэрвеня** ўрачыстая імпрэза пачнецца а 14 гадзіне на малой радзіме Васіля Быкава ў вёсцы Бычкі Ушацкага раёна. З Мінска прыедуць пісьменнікі Барыс Пятровіч, Уладзімір Някляеў, Уладзімір Арлоў і інш.



**Летась прэмію атрымалі музыка Зміцер Вайцюшкевіч і мастак Аляксей Марачкін.**



### Купальская ноч у Купалавым доме

**24 чэрвеня Літаратурны музей Янкі Купалы** запрашае сваіх наведвальнікаў адшукаць чароўную кветку папараці і сустрэць разам «Купальскую ноч у Купалавым доме».
**У праграме свята:**
19.30 — 20.30 — гульня-вiктарына «У пошуках папараць-кветкі» (па экспазіцыйных залах музея).
20.30 — 20.45 — «Спеўнае поле» — купальскія абрадавыя песні ў выкананні этна-фольк гурту «Guda». Заспяваць ва ўнісон з майстрамі зможа кожны ахвотны!
20.30 — 22.00 — майстар-клас па пляценні купальскіх вянкоў.
20.45 — 23.00 — купальскія абрадавыя песні, карагоды, майстар-клас па старадаўніх беларускіх танцах сумесна з этна-фольк гуртом «Guda».



### «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў»

**З 20 па 22 чэрвеня ў Нясвіжы** ў пяты раз пройдуць «Вечары Вялікага тэатра ў замку Радзівілаў». Гэты культурны праект, які падтрымлівае выдатную еўрапейскую традыцыю фестываляў пад адкрытым небам.

**Праграма**

**20 чэрвеня**
16:00 —Тэатральная зала замка Радзівілаў:
канцэрт вядучых салістаў оперы «Мелодыі кахання»;
21:30 —Унутраны двор замка Радзівілаў:
спектакль Дж. Бізэ «Кармен».

**21 чэрвеня**
16:00 — Касцёл Божага Цела: канцэрт з твораў беларускіх кампазітараў XIX стагоддзя;
21:30 — Унутраны двор замка Радзівілаў;
вечар балета «З стагоддзя XIX — у стагоддзе XXI»;
Будуць выкананы наступныя спектаклі: па-дэ-катр», «Свята кветак у Чынзана», па-дэ-сіс з балета «Эсмеральда», «Серэнада», «Шэсць танцаў».

**22 чэрвеня**
15:00 — Тэатральная зала замка Радзівілаў:
опера «Спачатку музыка, потым словы» А.Сальеры;
20:00 — Унутраны двор замка Радзівілаў:
гала-канцэрт «Зорак Вялікага тэатра Беларусі» з удзелам салістаў оперы і балета.

### Штучны адбор



**У Музеі сучаснага мастацтва (пр-т Незалежнасці, 47)** дзейнічае праект «Штучны адбор». У аснове яго — каля 200 твораў жывапісу і графікі гадаванцаў арт-студыі «Востраў». На выставе вас здзівіць і сама творчасць, манера выканання і спосаб экспанавання. Акрамя таго, будуць паказаныя архіўныя матэрыялы (відэа, фота, тэксты), а таксама прагучаць аўдыёзапісы шчырых гутарак з дзецьмі.

## ТЭАТРЫ

### 19 чэрвеня
**Беларускай драматургіі** — Ліфт
**Купалаўскі** — Старамодная камедыя
**Оперы і балета** — Алека. Балеро
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка

### 20 чэрвеня
**Купалаўскі** — Вечар
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка

### 21 чэрвеня
**Беларускай драматургіі** — Эмігранты

### 22 чэрвеня
**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Марозка

### 23 чэрвеня
**Купалаўскі** — Хам

### 24 чэрвеня
**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Купалаўскі** — Не мой
**Оперы і балета** — Баль-маскарад

### 25 чэрвеня
**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Чорная панна Нясвіжа
**Оперы і балета** — Баядэрка

## КІНО

### У свеце драконаў

Як прыручыць дракона—2
Мультфільм, камедыя, прыгоды, фэнтэзі
**Рэжысёр:** Дзін ДэБлуа
**У ролях (агучка):** Джэй Барушэль, Кейт Бланшэт, Джэрард Батлер, Крэйг Фергюсан, Амерыка Ферэра
ЗША, 102 хв.

Прайшло пяць гадоў, як людзі і драконы жывуць у міры і спакоі, забяспечваючы адзін аднаму вясёлае існаванне. Нехта бавіцца спаборніцтвамі ў палётах на драконах, а нехта, як сын правадыра Ікінг разам са сваім драконам Бяззубікам, даследуе новыя землі. Падчас адной з такіх вандровак яны адкрываюць новы востраў і сутыкаюцца з паляўнічымі, якія жорстка няволяць драконаў. Іх правадыр, Драга Блудвіст, марыць узяць пад уладу ўсіх драконаў у свеце. Ікінг упэўнены, што, калі пагаварыць з Драга, ён зразумее, што з драконамі можна і трэба сябраваць.
Сіквел мультфільма «Як прыручыць дракона» (2010) заснаваны на кнігах англійскай дзіцячай пісьменніцы Крэсіды Коўэл. Анімацыя другой часткі стала нашмат больш рэалістычнай. Фільм захапляе не толькі дынамічным сюжэтам, але і яркай карцінкай, і відовішчнымі кадрамі палёту. Паболела і драконаў розных відаў і паводзінаў. Сюжэт дастаткова развіты і закручаны, ён будзе цікавы і дзецям, і іх бацькам.
Рэжысёр Дзін ДэБлуа (на яго рахунку, дарэчы, вядомы мультфільм пачатку 2000-х «Ліла і Сціч») плануе зняць трэцюю частку франшызы.

**Настасся Уласава**



# Іконы стылю: хто яны?

Хто такая «ікона стылю» і як ёй стаць? Вядучы культавага расійскага тэлешоу «Модны прысуд» Аляксандр Васільеў распавёў мінчанкам пра выбітных прыгажунь і прыгажуноў мінулага.

Васільеў расказаў мінчанкам гісторыі больш чым паўсотні жанчын — балерын, актрыс, спявачак, арыстакратак, якія ў свой час былі ўзорам стылю. А вечназзяць удаецца адзінкам, як Катрын Дэнёў ці Сафі Ларэн, якія дагэтуль з'яўляюцца на вокладках часопісаў.

## «Кленчыце брыльянты!»



З каго ж усё гэта пачалося? Адной з першых «іконаў» у пачатку XX стагоддзя стала балерына Клеа дэ Мерод. Яе асіная талія (48 сантыметраў!) ды далікатны тварык вабілі і прэзідэнтаў, і каралёў. Тыя адорвалі жанчыну яе любімымі камянямі — брыльянтамі.

Неяк ў Клеа спыталі, пры якіх абставінах мужчыны робяць такія каштоўныя падарункі: падчас першай сустрэчы, на піку жарсцяў ці падчас растання? «Не, толькі калі я ім заломваю рукі», — аджартавалася балерына.

«Таму выпрошвайце брыльянты, дарагія жанчыны!» — рэзюмаваў Васільеў пад апладысменты мінскай публікі.

Адной з канкурэнтак Клеа была іспанская спявачка Караліна Атэра. Яна аддавала перавагу смарагдам. Гэтыя жанчыны ўвялі моду на тонкую талію, пышныя грудзі, доўгія валасы, буйныя камяні і легкадумны смех. Яны заўсёды былі мілымі, вясёлымі, мелі цудоўны настрой, ні на што не скардзіліся. Такі быў эталон жаночай прыгажосці ў самым пачатку XX стагоддзя.

Клеа, дарэчы, пражыла 91 год (памерла ў 1966) і ў сталым веку таксама выглядала абаяльна.

## Бормашына і новыя сэкс-сімвалы

У 1910-я гады з распаўсюдам электрычнасці з'яўляецца бормашына. І зоркі пачынаюць шырока ўсміхацца. Адной з першых гэта зрабіла француженка Арлет Даржэр.

І сёння, лічыць Васільеў, вы не можаце быць стылёвым, калі з зубамі ў вас не ўсё ў парадку. Не шкадуйце грошай на стаматолага!

Энігматычнай іконай стылю 1910-х стала мільянерка Луіза Казаці. Яна заўсёды была атачаная паэтамі і артыстамі. Маркіза збірала экзатычных жывёлаў і шакавала венецыянцаў, шпацыруючы па горадзе з гепардамі і змеямі. Увяла ў моду цёмны грым, падводку вачэй і хну.

## Ар-дэко: мода на геаметрыю

У 1920-х гадах зараджаецца новы стыль — ар-дэко, які змяніў пластычныя, кветкавыя матывы стылю мадэрн. У моду прыходзіць геаметрычны сілуэт.

Ікона таго часу — актрыса нямога кіно Аста Нільсэн. Яна не была худзенькай, але ўмела хаваць гэта з дапамогай вертыкальных ліній.

Жадаеце добра выглядаць? Памятайце, што вертыкаль заўсёды стройніць, гарызанталь — паўніць.

Эпоха ар-дэко любіла «квадратныя» твары. Для гэтага трэба было насіць чубок — ён стварае прамую лінію, прычоску «карэ» і мець шырокія сківіцы. Зоркі толькі з такой канфігурацыяй лічыліся прыгажунямі. Карэ ўвяла венгерская актрыса Лія дэ Пуці, маленькая, з міцыянорнай галоўкай і вельмі фотагенічная.

## Жанчына-вамп

Перабоі з харчаваннем у часы Першай сусветнай прывялі да таго, што жанчыны сталі нашмат стрыжнейшымі. Як Вера Халодная, каралева экрана дарэвалюцыйнай Расіі. Яе стыль усім прыйшоўся дaспадобы. Жанчыны замаўлялі сабе туфлі з атласнымі стужкамі, паліто з высокім каўняром, капелюшы «а-ля Вера Халодная».

Халодная ўвасабляла адмысловы тыпаж — жанчына-вамп. Вамп — абавязкова брунетка, з цёмнымі павекамі. «Вамп паглядзіць на мужчыну аднойчы — і ён яе раб да скону дзён», — жартуе Васільеў.

## Флэпер: «жанчына-хлапушка»

«Што значыць жанчына-флэпер (ад англ. flapper — хлапушка)? Адна з версій — іх так называлі, бо яны насілі галошы і не зашпільвалі, іншая — ад таго, што такія дзяўчаты былі гучнымі, выбуховымі. Флэперкі выступалі за жаночую эмансіпацыю: кіравалі аўто і самалётамі, танчылі факстроты, а з мужчынамі дазвалялі сабе такое, ад чаго жахаліся іх віктарыянскія мамы. Напрыклад, заставацца з мужчынам сам-насам, без кампаньёнкі.

Адной з першых флэперак была амерыканка Мэй Мюрэй. Стыль флэпер прадыктаваў жанчынам новы грым з малюсенькім ротам, чырвонай кропляй, нашмат меншым за свае натуральныя абрысы. Флэпер заўсёды прамаўляла дзіцячым галаском, нібыта ёй 12 год. Заўсёды была ў гуморы, танцавала, насіла сукенкі з бісеру і бліскавак.

## Фатальная бландзінка

Шведка Грэта Гарба ў 1930-я перавярнула ўяўленне свету пра прыгажосць. Усе раптам узгадалі, што нішто так не ўпрыгожвае жанчыну, як перакіс вадароду.

Вобраз Гарба стаў іканапісным дзякуючы новаму амплуа — femme fatale, фам фаталь , ракавая жанчына. «Ракавая бландзінка — гэта калі мужчыны пабачылі — і памерлі», — тлумачыць Васільеў.

Грэта была шыракаплечая (займалася плаваннем). Паколькі ўсе хацелі быць як яна, у моду ўвайшлі падплечыкі. Яе вынаходніцтва — фатаздымкі з пляча, яна заўсёды разварочвалася плячом да камеры. У Грэты быў шырокі рот, і яна гэта падкрэслівала макіяжам, што вывела з моды маленькія роцікі-«сардэчкі» флэперак.

Калі Гарба была фотагенічная ад прыроды, то іншая топ-бландзінка 1930-х, Марлен Дзітрых, сама выкавала свой вобраз. Марлен была пампушкай, якая села на жорсткую дыету. Яна нават вырвала чатыры зубы, каб мець «ямачкі» на шчоках.

Грэта і Марлен увялі ў моду згорбленую спіну. Сутулаватасць стала нормай у 30-я гады. Плечы павінны быць на першым плане, а каб гэтага дабіцца, трэба згорбіцца. Таксама пергідроль, фарбаваныя вейкі, вялікі рот і новыя формы. Фам фаталь — гэта жанчына з шырокімі сцёгнамі.

## Вайна дыктуе моду

Вайна не прайшла бясследна для свету моды. З'яўляецца стыль мілітары з пагончыкамі, кішэнямі, плечыкамі ды металічнымі гузікамі. Падчас вайны бландзінкі саступілі месца брунеткам і рудым: басма і хна — самыя танныя фарбавальнікі.

Нарэшце, вайна скончылася. Мужчыны вярнуліся з фронту. Чаго яны хочуць? Сэксу і стварэння сям'і. У моду ўваходзяць жанчыны з пышнымі формамі, поўнымі вуснамі і накладнымі вейкамі. Як Рыта Хейварт, зорка Галівуда 1940-х гадоў.

## Новая сэксуальнасць

Шпількі, якія з'явіліся пасля вайны, павінны былі сімвалізаваць новую сэксуальнасць, раней недасяжную. Чаму іх нельга было стварыць раней? У вырабе шпілек сталі выкарыстоўваць стальныя штыры, якія раней былі прадугледжаны для авіяканструкцый.

Мадэльер Крысціян Дыёр стварае новы вобраз — пышныя спадніцы, баска (шырокая аборка, якую прышываюць на лінію таліі да сукенкі, блузкі) і капялюш «ядзерны грыб». Усе сукенкі таго часу робяць з драпіраваным бюстам. Грудзі трэба было ўсяляк падкрэсліваць.

Сімвал новай сэксуальнасці — пышнагрудая бландзінка Мэрылін Манро. Дарэчы, яе бюст не быў такім ужо і пышным. Яна візуальна павялічвала яго з дапамогай ватных накладак, якія прышывала да кожнай сукенкі.



Канкурэнцыю з Мерылін вытрымлівала толькі Брыджыт Бардо, якая славілася таліяй у 50 сантыметраў і раскошнымі валасамі.

## Шпіёнаманія

З прыходам халоднай вайны і стварэннем фільмаў пра Джэймса Бонда ў моду прасочваецца вобраз шпіёнкі. Светлая памада, цені, валасы, халодны бяздушны вобраз. Калі ў 1950-я жанчына ўсім сваім знешнім выглядам казала дэмабілізаванаму салдату: «Я гатовая ў ложак», дык тут — «Я гатовая вас прашпіёніць». Прыклад ідэальнай шпіёнкі — актрыса чэшскага паходжання Кім Новак.

Эпоха 60-х зноў змяняе жаночую фігуру, вяртае яе ў даваенны час. Жанчыны хаваюць формы і робяць выгляд, нібыта ў іх хлапечая фігура.

Пералічваць красуняў пасляваеннага часу і да нашых дзён можна доўга. Гэта і таленавітыя Одры Хэпберн, Грэйс Келі, Ліз Тэйлар, Сафі Ларэн, Марына Уладзі, Катрын Дэнёў. Апошняя, па словах Васільева, узор таго, як правільна старэць і пры гэтым заставацца стылёвай.

«Не трэба баяцца старэць. Ніхто не малады пасля 40 год, нельга быць вечна маладым. А мужчыны любяць розных жанчын», — кажа Васільеў.

«Быць жанчынай так цудоўна! У вас ёсць касметычка, духі, валасы рознага колеру, макіяж, манікюр, біжутэрыя, ювелірныя ўпрыгожанні, сукенкі, абцасы... Як не быць прыгажуняй! Адзіная рэч, якая можа перашкодзіць рабіць гэта, — лянота».

**Аксана Рудовіч**





Для мінскай публікі Васільеў апрануў стракаты пінжак з чорнай «бабачкай». На руках — груvasткія пярсцёнкі. Чырвоныя лілеі на пінжаку спалучаліся з такога ж колеру акулярамі і туфлямі-лоферамі. Апошнія, натуральна, без шкарпэтак.

ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

### Парады ад фатальных жанчын

«Цягніце насок, жанчыны! — вучыць Васільеў, паказваюць фотаздымкі 1930-х. — І вы заўсёды будзеце выглядаць зграбнымі і прыгожымі. Ніколі не стаўце нагу качаргой. Як толькі вы яе сагнулі, вы згубілі 30 сантыметраў росту».

Яшчэ адна практычная парада, навеяная Гарба: элегантная жанчына ніколі не носіць трыкатаж у абцяжку. Як толькі вы ў такой сукенцы, вы «пад абстрэлам». Усе бачаць «катлеткі» і «піpожныя», якія вы з'елі.

Думайце, на якім фоне вы фатаграфуецеся і ў што апранутыя. Чорная сукенка на чорным фоне зробіць з вас «страйняшку».

Ніколі не сядайце на крэсла ўсёй «пятай кропкай». Сядзьце напалову, пакладзіце ногі па дыяганалі, і вы візуальна згубіце 20 кілаграмаў. Можна загадзя патрэніравацца. Галоўнае — каб гэта выглядала нязмушана.

«Зміняйцеся і не заставайцеся ў вобразе таго года, калі вы пазнаёміліся са сваім мужам», — раіць Васільеў.



ІРЫНА АРАХОЎСКАЯ

Паслухаць гісторыка моды прыйшлі сталічныя прыгажуні.


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Графіцістаў, якія малявалі Быкава ў цэнтры Мінска, забралі ў міліцыю, і склалі пратаколы за нанясенне шкоды грамадскай маёмасці. Партрэт пісьменніка павінен быў з’явіцца ў адным двары на плошчы Перамогі да 90-годдзя. Нагадаем, што яно будзе адзначацца 19 чэрвеня.**


REUTERS

**Наведвальнікі сельскагаспадарчай выставы ў Мінску фоткаюцца з пудзілам воўка з балалайкай.**


СЯРГЕЙ ГЕЗГАЛА

**У Беларусі час чабору**

## Пятрусь Броўка. **Пахне чабор**

Хіба на вечар той можна забыцца?
…Сонца за борам жар-птушкай садзіцца,
Штосьці спявае пяшчотнае бор,
Пахне чабор,
Пахне чабор…

Лёгкія крокі на вузкай сцяжынцы.
Дзеўчына ў белай іскрыстай хусцінцы,
Быццам абсыпана промнямі зор.
Пахне чабор,
Пахне чабор…

Выйсці б насустрач,
стаць і прызнацца.
Вось яно — блізкае, яснае шчасце,
Клікнуць хацелася — голас замёр.
Пахне чабор,
Пахне чабор…

Год адзінаццаць, а можа, дванаццаць
Сэрца баліць,
што не здолеў спаткацца,
Сэрца нязменна хвалюе дакор.
Пахне чабор,
Пахне чабор…

Час той схаваўся за дальняй гарою,
Здасца хвілінай — яна прада мною…
Выйду. Гукаю. Маўклівы прастор.
Пахне чабор,
Пахне чабор…



### Анекдоты і жарты

* * *

– Люся, які сувенір ты б хацела з Германіі?
– BMW...

* * *

Следам за ветлівымі людзьмі ў зялёным камуфляжы з Расіі ва Украіну прыехалі ветлівыя танкі.

* * *

Жонка тэлефануе мужу:
— Кастусь, ты навігатар у машыне чапаў?
— Так, каханая... Я глядзеў, якая адлегласць паміж Мінскам і Гомелем.
– Ну, дзякуй! Я ў Гомелі.

* * *

У дзіцячым садку нас шляхетна троліла адна выхавацелька. Яна казала:
– Хто першым засне падчас ціхай гадзіны, таму я ў сне пастаўлю плёнку з новымі мульцікамі.
І кожны раз, прачынаючыся, я ціха здзіўляўся, што нейкая сволач зноў заснула раней за мяне.

* * *

Фотаальбом нашых бабуль:
1946 — пайшла ў школу (1 фота)
1956 — скончыла школу (2 фота)
1961 — скончыла ўніверсітэт (1 фота)
1964 — выйшла замуж (3 фота).
Фотаальбом іх унучак:
19.38 — прыйшла ў кавярню (29 фота)
19.41 — прынеслі меню (18 фота)
19.52 — прынеслі ежу (41 фота)
19.59 — пайшла ў туалет (123 фота)
20.03 — выходзячы з прыбіральні, сустрэла сяброўку (52 фота)
20.11 — прынеслі дэсерт (38 фота)
20.25 — прынеслі рахунак (12 фота).

### «НН» сто гадоў з вамі

**Стары памешчык Руданаў з Рэчыцкага павета** будуе ў вёсцы Асарэвічы вялікую мураваную бальніцу, а пры ёй амбулаторыю і кватэры для дактароў. Бальніца абыдзецца яму каля 100 000 рублёў. Выбудаваўшы бальніцу, Руданаў падорыць яе земству.

**«НН». №24. 1914.**

**Віталь Тарас:** Для сучаснікаў важна зразумець, што Быкаў не належыць нікому персанальна. Ні прэзідэнту, ні партыям, ні былым сябрам, ні нават сваякам і крэўным. Ён належыць усім беларусам — у тым ліку тым, хто пра яго ніколі не чуў ці нават яшчэ не нарадзіўся. Ён належыць родным Бычкам, Мінску, Беларусі, належыць таксама Празе. Быкаў належыць чалавецтву.

**«НН». №23. 2004.**

**Наша Ніва**
незалежная газета
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Таццяна Кур'ян |
| шэф-рэдактар | Андрэй Дынько |
| намеснікі галоўнага рэдактара | Ягор Марціновіч<br>Зміцер Панкавец |
| галоўны рэдактар | Андрэй Генадзевіч Скурко |
| заснавальнік | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |
| выдавец | Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы» |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32, 8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 17.06.2014.
Замова №2387.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614

